

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 21 ліпеня 1989 г. № 29 (3491) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Дзяржаўны экзамен

**У Маскве працягвае работу першая сесія Вярхоўнага Савета СССР. Галоўным вынікам мінулых тыдняў стала фарміраванне Савецкага ўрада на падставе прынятага Вярхоўным Саветам Закона аб унясенні змяненняў у Закон СССР «Аб Савеце Міністраў СССР».**

Прадстаўляючы новаму парламенту прапановы па персанальным складзе ўрада, Старшыня Савета Міністраў СССР *М. І. Рыжкоў паведаміў*, што колькасць міністэрстваў скарачаецца ў параўнанні з 1984-м годам на сорак працэнтаў. Пры гэтым кожны трэці з кандыдатаў на пост міністра прадстаўляецца ўпершыню. Сярэдні ўзрост кандыдатаў — 55 гадоў.

Але галоўнае, падкрэсліваў М. І. Рыжкоў, — не ў колькасных і персанальных зменах, не ў механічным зліцці ведамстваў, а ў змяненні іх функцый ва ўмовах эканамічнай рэформы, у адмаўленні ад каманднa-адміністрацыйных метадаў, пераадоленні ведамаснага манапалізму, у развіцці самастойнасці прадпрыемстваў, пераходзе на гаспразлік рэспублік і рэгіёнаў. Такі шлях павінен у перспектыве прывесці да ліквідацыі большай часткі міністэрстваў і ведамстваў.

Вярхоўны Савет СССР зацвердзіў больш чым пяцьдзесят міністраў і кіраўнікоў дзяржаўных камітэтаў, персанальны склад калегіі Пракуратуры СССР, Вярхоўнага Суда СССР, калегіі Дзяржарбітражу СССР, Народнага кантролю СССР. У ходзе абмеркавання не былі зацверджаны адзін з намеснікаў Старшыні Савета Міністраў СССР, два міністры і адзін з першых намеснікаў старшыні Вярхоўнага Суда СССР. Кандыдат *на пост першага намесніка* Старшыні Савета Міністраў, старшыні Камісіі па харчаванні і закупках, кандыдатуры шасці кіраўнікоў ведамстваў і старшыні Дзяржбанка СССР не атрымалі неабходных рэкамендацый яшчэ ў ходзе работы камітэтаў і камісій Вярхоўнага Савета, праз якія прайшлі ўсе будучыя члены ўрада.

Кандыдатуры на вакантныя пасады будуць прадстаўлены пазней.

Варта нагадаць, што на сесіі былі ўзгоднены і канчаткова зацверджаны склад камітэтаў Вярхоўнага Савета і камісій яго палат. У іх уключаны разам з членамі Вярхоўнага Савета дэпутаты, якія не ўваходзяць у цяперашні склад парламента. У камітэтах і камісіях, дзе адбываецца асноўная, можна сказаць, чарнавая работа вышэйшага заканадаўчага органа краіны, ёсць і прадстаўнікі

**(Працяг на стар. 2).**

# Нарада ў ЦК КПСС

18 ліпеня ў Цэнтральным Камітэце КПСС адбылася нарада першых сакратароў ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў партыі, на якой былі разгледжаны некаторыя пытанні партыйнай работы ва ўмовах перабудовы.

З дакладам на нарадзе выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.

Па абмеркаванаму пытанню выступілі: С. Г. Аруцюнян — першы сакратар ЦК Кампартыі Арменіі, Л. М. Зайкоў — сакратар ЦК КПСС, першы сакратар Маскоўскага гаркома КПСС, А. М. Масаліеў — першы сакратар ЦК Кампартыі Кіргізіі, А. С. Мякота — першы сакратар Палтаўскага абкома Кампартыі Украіны, Д. С. Ядгараў — першы сакратар Бухарскага абкома Кампартыі Узбекістана, І. Г. Пастаронка — першы сакратар Івана - Франкоўскага абкома Кампартыі Украіны, Н. А. Назарбаеў — першы сакратар ЦК Кампартыі Казахстана, Л. Ф. Бабыкін — першы сакратар Свярдлоўскага абкома КПСС, В. І. Вяляс — першы сакратар ЦК Кампартыі Эстоніі, В. К. Месяц — першы сакратар Маскоўскага абкома КПСС, А. П. Панамароў — першы сакратар Белгародскага абкома КПСС, Я. П. Пагрябняк — першы сакратар Львоўскага абкома Кампартыі Украіны, Я. К. Лігачоў — сакратар ЦК КПСС; В. І. Міроненка — першы сакратар ЦК ВЛКСМ, А.-Р. Х. Везіраў — першы сакратар ЦК Кампартыі Азербайджана, М. І. Рыжкоў — Старшыня Савета Міністраў СССР, Ю. А. Манаенкаў — першы сакратар Ліпецкага абкома КПСС, А.-М. К. Бразаўскас — першы сакратар ЦК Кампартыі Літвы, Б. М. Валодзін — першы сакратар Растоўскага абкома КПСС, В. А. Мядзведзеў — сакратар ЦК КПСС, К. Салыкаў — першы сакратар Каракалпакскага абкома Кампартыі Узбекістана, В. І. Варатнікоў — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета РСФСР, М. І. Мальцоў — першы сакратар Чыцінскага абкома КПСС, К. М. Махкамаў — першы сакратар ЦК Кампартыі Таджыкістана, В. Б. Цемірбаеў — першы сакратар Чымкенцкага абкома Кампартыі Казахстана, Я. Я. Вагрыс — першы сакратар ЦК Кампартыі Латвіі.

З заключным словам выступіў М. С. Гарбачоў.

На нарадзе была аднадушна падтрымана прапанова пералічыць у Дзяржаўны бюджэт СССР мэтавым прызначэннем 500 млн. рублёў партыйных узносаў на фінансаванне мерапрыемстваў, звязаных з павышэннем пенсій для малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

У рабоце нарады ўдзельнічалі тт. Ніканаў В. П., Чэбрыкаў В. М., Шэварднадзе Э. А., Шчарбіцкі У. В., Якаўлеў А. М., Бірукова А. П., Лук'янаў А. І., Маслюкоў Ю. Д., Разумоўскі Г. П., Язаў Д. Ц., Бакланаў А. Д.

У нарадзе таксама прынялі ўдзел намеснікі Старшыні Савета Міністраў СССР, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, рэдактары партыйных выданняў, начальнікі палітупраўленняў ваенных акруг, адказныя работнікі апарату Цэнтральнага Камітэта КПСС.

**ТАСС.**

# Іграй, гармонік!

**Мяняецца мода на музычныя інструменты — слых далёкіх і блізкіх продкаў у розныя часы лашчылі гукі то ліры і жалейкі, то скрыпкі і гітары, але «вечным моднікам» на нашай зямлі застаецца самы, здавалася б, непрыкметны інструмент — гармонік. Ды ў апошнія гады наш гармонік, на жаль, страчвае свае пазіцыі. Магчыма, гэта акалічнасць і была адной з прычын правядзення першага рэспубліканскага свята гарманістаў «Іграй, гармонік», якое адбылося ў Віцебску.**

З розных куткоў Беларусі на свята з'ехалася больш за 250 чалавек. Былі запрошаны самадзейныя выканаўцы, народныя майстры па вырабе музычных інструментаў, спецыялісты-музыказнаўцы і выкладчыкі навучальных устаноў, кіраўнікі вядучых самадзейных калектываў. Напярэдадні свята ў Палацы культуры і тэхнікі лёгкай прамысловасці была адкрыта выстаўка беларускіх музычных інструментаў, на якой былі прадстаўлены не толькі экспанаты з музеяў, *але і прыватныя*. На жаль, прозвішчы многіх майстроў ужо не захаваліся. Вось ліра і дуда канца XIX, цымбалы пачатку XX стагоддзя, а вось басэтля вядомага майстра другой паловы XIX ст. С. Русака з Капыльшчыны. Шырока былі прадстаўлены на выстаўцы калекцыі акарынаў Ф. Целішоўскага з Івянца, свістулек З. Жылінскага з Пружанскага раёна, Г. Сіманькова з г. п. Дуброўна Віцебскай вобласці, М. Ржавуцкага з в. Нёманіца Барысаўскага раёна. Свае інструменты дэманстравалі кіраўнік праслаўленага ансамбля «Крупіцкія музыкі» У. Гром, вядомы майстар па вырабе скрыпак з Баранавіч І. Дударэвіч. У тым, што такая цікавая выстаўка адбылася, заслуга І. Назінай, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, якая не толькі дапамагла сабраць, але і прывезці многія інструменты з асабістай калекцыі.

На выстаўцы працавала творчая лабараторыя народных майстроў і спецыялістаў, тут была ўтворана Асацыяцыя народных майстроў, якая возьме на ўлік нашых майстроў, правядзе інвентарызацыю ўсіх зберажоных інструментаў, стане каардынацыйным і метадычным цэнтрам. Наступную выстаўку запланавалі правесці ў Мінску ў 1990 годзе ў час IV фестывалю мастацкай самадзейнасці сацыялістычных краін.



А само свята выйшла на пляцоўкі Віцебска. Шмат гледачоў і ўдзельнікаў сабраў імправізаваны конкурс «Хто каго...». Музыкі імкнуліся заняць месца на невялікай пляцоўцы, якая пад напорам цікаўных звужалася і звужалася. Вось у цэнтры браты Ярохавы, Аркадзь і Аляксандр, з Клімавіцкага раёна, людзі ўжо сталага ўзросту. Але колькі ў іх вачах радасці, захаплення, што іх мастацтва так кранае сэрцы слухачоў! Вось яшчэ адна цікавая сустрэча. Ля мікрафона І. Сушко з Маладзечна рэжа на новым гармоніку Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў вясковую кадрылю. Музыканта мы добра ведаем як мастацкага кіраўніка ансамбля песні і танца «Спадчына». Пасля выступлення яго акружылі многія музыкі — вельмі ж спадабаўся гармонік. Значыць, могуць рабіць добрыя інструменты і сёння...

Заключны канцэрт свята меў назву «Запрашаем на вяселле». Гаспадары запрашаюць на традыцыйнае беларускае вяселле гасцей з усёй рэспублікі. А кожны госць прыпас для маладых свой, асаблівы падарунак. Тут прыпеўкі і велічальныя абрадавыя песні, вясковыя полькі і пераплясы, у цэнтры — гарманіст. Побач з вядомымі ў рэспубліцы ансамблямі — «Лявоны» з Воранава, «Бараўлянскі гармонік» з Мінскага раёна, — выканаўцы, якія ўпершыню выйшлі на такую вялікую сцэну. Удзячныя гледачы не пашкадавалі апладысментаў, а пасля канцэрта шчаслівыя ўдзельнікі прымалі віншаванні і ўзнагароды. Шчыра падзякаваў і запрасіў усіх яшчэ раз у госці першы сакратар Віцебскага абкома партыі У. В. Грыгор'еў.

Па выніках свята плануецца выпусціць буклет і набор паштовак пра музычныя інструменты і народных майстроў, лепшых выканаўцаў. Найбольш цікавыя і арыгінальныя музыкі будуць запісаны на спецыяльную пласцінку, прымуць удзел у рэспубліканскім свяце «Звіняць цымбалы» ў Гродне. А наступнае, другое свята гарманістаў плануецца правесці ў Магілёве. Гэтыя і іншыя святы арганічна ўвойдуць у сістэму мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да Міжнароднага фестывалю фальклору, які адбудзецца ў рэспубліцы ў 1992 годзе.

**Т. СТРУЖЭЦКІ,**
**начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР.**

варункі моўнага размежавання. (Скажам, калі дзіця з маці будзе гаварыць на адной мове, а з бацькам на другой). Але ўсё роўна, гэта вялікая нагрузка на псіхіку дзіцяці, якое толькі фарміруе свае слоўныя паняцці і мысленніцкія катэгорыі. Тут могуць быць зломы, бо шмат залежыць ад бацькоў і здольнасці дзіцяці. Найлепшыя ўмовы дасягаюцца тады, калі маленькі чалавечак выхоўваецца ў сферы адной мовы да пэўнага ўзросту, пакуль не сфарміруецца яго моўны апарат, сістэма думання ў роднай моўнай структуры, уменне фарміраваць абстрактныя паняцці і адэкватна выяўляць іх у словах і гаворцы.

Дарэчы, гэтымі днямі старшыня Дзяржаўнага камітэта па народнай адукацыі Г. А. Ягадзін катэгарычна зазначыў з трыбуны сесіі Вярхоўнага Савета СССР, што не навучаць дзяцей на роднай мове ў школе першай ступені значыць «забіваць гэтую мову».

Чалавек авалодвае асноўнай структурна - стратыграфічнай (акрамя верхніх стылістычных пластоў) і меладычна-рытмічнай сістэмай мовы і мыслення дзесьці ва ўзросце 11—12 гадоў. Менавіта з гэтага ўзросту найбольш бяспечна пачынаць вывучэнне замежных моў. *Пры ўмелай педагогіцы, праўда*, можна пачынаць і раней.

Сутнасць, аднак, не ў тым, каб рускую мову «вывучаць з ранняга дзяцінства», як паспешна мяркуюць некаторыя, а ў тым, каб аднавіць беларускія *школы, адрадзіць* нацыянальную сістэму асветы і раздзяліць, рэгламентаваць навучанне, пазбегнуць «змяшання моў і народаў» як найвялікшага зла, як катастрофы для культуры, пра што ведалі яшчэ *старажытныя* біблейскія жыхары.

Рускі абывацель пачатку бягучага стагоддзя, выхаваны ў атмасферы самадзяржаўя «единой и неделимой», не сумняваўся, што імперыі патрэбная адзіная руская дзяржаўная мова. Гэты тэзіс для шматнацыянальнай «турмы народаў» быў настолькі недэмакратычны, што У. І. Ленін знайшоў магчымым спецыяльна абвергнуць яго ў асобным артыкуле. Няма нічога дзіўнага, што сталінскі ГУЛаг, які прыйшоў на змену «турме», адміністрацыйна - бюракратычная сістэма рэанімiравалі погляды самадзяржаўнага абывацеля. У 70-х гадах яны склалі аснову нацыянальнай палітыкі брэжнеўскай унітарнай дзяржавы, якая паспяшала абвясціць аб стварэнні «новай гістарычнай агульнасці людзей» — «савецкага народа». Менавіта тады, з пачатку 70-х гадоў, з «гістарычнага» XXIV з'езда КПСС разам са сцвярджэннем пра «бурное развитие национальных культур и языков» «в нашей стране» пачынаецца назойлівае паўтарэнне тэзіса аб рускай мове як «ВАЖНОМ СРЕДСТВЕ МЕЖНАЦИОНАЛЬНОГО ОБЩЕНИЯ советских людей». У часопісе давалася растлумачэнне гэтага паняцця: «Это язык коммунистов и всех прогрессивных людей мира, язык грядущей эпохи коммунизма». («Коммунист Белоруссии», 1972, № 1, с. 22).

Выказванняў, падобных гэтаму, было нагаворана безліч апошнія 15—18 гадоў. Іх можна пачуць з вуснаў партыйнага кіраўніка і дробнага функцыянера, аблашчанага ўладай членкора, акадэміка, прафесара і навучанага ім студэнта, з вуснаў ветэрана, адстаўніка, ці старшыні «ўзорнага» калгаса і г. д. Усе яны выяўляюць уніфікаваныя по*гляды бюракратыі* на функцыю мовы. Бюракратыя імкнецца заканадаўча замацаваць гэты тэрмін і палажэнне аб рускай мове, увесці яго ў Канстытуцыю СССР і саюзных рэспублік. Проста дзіву даешся, *як бюракратызм* навучыўся ашукваць народы. І вось У. Кулажанка піша: «Палажэнне аб рускай мове як мове міжнацыянальных зносін павінна быць замацавана ва ўсіх канстытуцыях саюзных рэспублік. Таму рускую мову трэба вывучаць з ранняга дзяцінства...» і г. д.

Але ў тым і справа, што не павінна (прытым катэгарычна не павінна) гэтае палажэнне замацоўвацца ў Канстытуцыі СССР і ў Канстытуцыях саюзных рэспублік, бо гэта будзе юрыдычным замацаваннем часовай і да таго ж рухомай у значнай ступені штучнай сітуацыі; гэта будзе прававым замацаваннем прывілеі для рускай мовы, яе вялікадзяржаўнага права.

Мова міжнацыянальных зносін (правільней было б сказаць — міжрэспубліканскіх) не зацвярджаецца Канстытуцыяй, а выяўляецца сама сабой у выніку культурна-нацыянальных і эканамічных дачыненняў паміж народамі. Яна прымаецца добраахвотна і не замацоўваецца ўказамі па той прычыне, што ў гэтым няма патрэбы, калі маюцца на ўвазе дачыненні.

Акрамя таго, адна мова «міжнацыянальных дачыненняў» пры нармальным развіцці ўзаемаадносін з цягам часу можа змяніцца на іншую; можа існаваць некальні міжрэспубліканскіх моў і г. д.

Тут трэба дадаць, што кіруючая бюракратыя, якая імкнецца да цэнтралізацыі дзяржавы і ўніфікацыі дзяржаўнага апарату, зацікаўлена ў адзінай унітарнай дзяржаўнай мове, ЯК СРОДКУ КАМУНІКАЦЫІ. Функцыя мовы ЯК СРОДКУ КУЛЬТУРЫ яе не цікавіць, гэтак жа як і нацыянальныя мовы рэспублік. Сцвярджэнне універсалізму рускай мовы ў СССР вынікае не з «патрыятызму», а са «звышінтэрнацыяналізму» бюракратыі, што выяўляе яе імкненне да наднацыянальнага (касмапалітычнага) стану. Пры гэтым яна застаецца абыякавай да рускай культуры, гісторыі і рускай мовы як гістарычнай з'явы, як творчага феномена народа.

Мне менш за ўсё хацелася б, каб прафесар У. Кулажанка падумаў, што я крытыкую яго добры артыкул. Лічачы сябе мыслячымі, прагрэсіўнымі людзьмі, не прымаючы бюракратызм розумам і сэрцам, мы часам нават не здагадваемся, які адбітак паклаў ён на нашы паводзіны і мысленне. Найцяжэй пазбаўляцца ад стэрэатыпаў, накшталт такога: «рускую мову трэба вывучаць, валодаць ёю і з эканамічнага пункту гледжання. Справа ў тым, што Беларуская ССР уваходзіць ва ўсесаюзны народнагаспадарчы комплекс. На Беларусь і з Беларусі вязуць з усіх і ва ўсе куткі краіны ды і свету. Забяспечыць патрэбы развіцця эканомікі на аснове ўжывання толькі роднай мовы — немагчыма».

Гэта не толькі элементарна магчыма, але і неабходна, бо *нацыянальная мова з'яўляецца* ўмовай і вынікам эканамічнага фарміравання нацыі.

Абгрунтоўваць неабходнасць для ўсіх валодаць менавіта рускай мовай, зыходзячы з эканамічных меркаванняў, — рызыкоўна. «Усесаюзны народна-гаспадарчы комплекс», куды ўваходзіць БССР, — гэта спараджэнне каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, закладзенай сталіністамі. Ён сфарміраваны па загадна-бюракратычным прынцыпе, а не развіўся па эканамічных законах, якія ў ім не дзейнічаюць, а калі пачынаюць дзейнічаць, то ўсё ляціць дагары нагамі.

Дык ці варта такім бюракратычна-эканамічным комплексам абгрунтоўваць прывілеі рускай мове? Сутнасць жа цяперашняй палітыкі дэмакратызацыі грамадства — каб якраз перабудаваць гэты комплекс, адрадзіць эканамічныя законы функцыянавання гаспадаркі рэспублік. Свабоднае развіццё эканомікі рэспублік, усталяванне іх суверэнітэту, павышэнне ўзроўню культуры, пашырэнне ўзаемадачыненняў, разгортванне дэмакратыі — усё з часам паставіць на сваё месца.

Мы жывём у час, калі вырашаецца лёс нацый і народаў. Трэба вызначацца і дагаворваць усё да канца. Памылак тут не павінна быць, бо часу на іх выпраўленне гісторыя можа нам не пакінуць.

**Зянон ПАЗНЯК.**

---

сваё бачанне, свой пункт гледжання. Небяспечна, думаем, *нешта іншае. Менавіта ведамас*ны падыход, калі на першы план выходзіць абарона ўласнага мундзіра, абмяжоўвае кругагляд памерамі службовых кабінетаў.

Аўтары «рэплікі на рэпліку» настойліва нагадваюць, як многа работы ў міліцыі, асабліва ў апошні час. Між іншым, у гэтым ніхто і не сумняваецца. І рэпліка ў «ЛіМе», варта напомніць, зусім не скіравана на тое, каб кінуць цень на ахову парадку, на нашу слаўную міліцыю. Шкада, што за іранічнай формай рэплікі нашы апаненты не ўбачылі галоўнага — думкі аб тым, што будаваць сапраўды дэмакратычнае грамадства трэба не шляхам канфрантацыі, супрацьпастаўлення адных слаёў другім, а шляхам кансалідацыі ўсіх яго лепшых сіл. *Вось тады словы «права» і «парадак»* складуць непарыўную еднасць.

І апошняе. Дзякуючы прамой тэлетрансляцыі, мы ўсе маглі гэтымі днямі назіраць прызначэнне В. В. Бакаціна на пост міністра ўнутраных спраў СССР, выслухаць яго праграму. У ёй многа сказана пра тое, як, якім чынам мяркуецца змагацца са *злачыннасцю, умацоўваць правапарадак* у краіне. Але ў праграме гэтай, у новай канцэпцыі перабудовы органаў міліцыі нічога не сказана пра... рабочыя атрады. Відавочна, што не ў іх, не ў гэтым кірунку бачыць кіраўнік МУС шляхі паляпшэння становішча. Выходзіць, не без падставы ўстрывожыўся лімавец?

---

# ПАДАЗРЭННЕ

**ТОЛЬКІ ПАДАЗРЭННЕ У «ІНШАДУМСТВЕ», «ПАДТРЫМЦЫ НЕФАРМАЛАЎ» СТАЛА ПРЫЧЫНАЙ НЕПРЫЯЗНІ, ЯКУЮ АДЧУЎ ПАМОЧНІК ПРАКУРОРА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА МІКАЛАЙ ТУРЧАНАЎ З БОКУ МЯСЦОВЫХ І НЕ ТОЛЬКІ МЯСЦОВЫХ УЛАД.**

ВАМ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ бываць у Бешанковічах? Сімпатычны, зялёны гарадок аж з трыма паркамі, адзін з якіх, з векавымі дубамі і ліпамі, некалі належыў графу Агінскаму. Праўда, не славутаму кампазітару, а яго далёкаму родзічу, чым усё роўна ганарацца жыхары пасёлка. Наогул, я заўважыў, ім уласцівы свой мясцовы патрыятызм. Многія, з кім я гутарыў, з гонарам расказвалі мне, што ў Бешанковічах зараз жыве аж сем тысяч чалавек.

Што я хутка ўсвядоміў, дык гэта тое, што ў гарадскім пасёлку амаль усе ведаюць адзін аднаго. Ва ўсякім разе трыццацігадовага Мікалая Турчанава, памочніка бешанковіцкага пракурора (для тых, хто не ведае, растлумачу, што ў пракуроскай іерархіі ён другая па значэнні фігура ў пракуратуры) ведаюць тут вельмі многія. Наогул, чалавек ён у раёне прыкметны. Не толькі таму, што сімпатычны знешне — высокі, сінявокі, белазубы, а і таму яшчэ, што лічыцца эрудзіраваным, ды да таго яшчэ вельмі прынцыповым юрыстам. Так мне ахарактарызаваў Мікалая Пятровіча яго непасрэдны начальнік пракурор раёна Уладзімір Сяргеевіч Зябко.

Анкета ў Турчанава, што *трэба*. Пасля сярэдняй школы працаваў на Віцебскім заводзе гадзіннікавых дэталей, камсамольскі актывіст, на грамадскіх пачатках супрацоўнічаў з органамі аховы грамадскага парадку. Ад абласной пракуратуры і атрымаў ён накіраванне ў Харкаўскі юрыдычны інстытут, пасля заканчэння якога размеркаваўся на Віцебшчыну ў Бешанковіцкую пракуратуру. Два гады працаваў следчым, а вось ужо тры — памочнік пракурора. Мае жонку, дачку. Калі яшчэ нешта гаварыць аб асабістых якасцях Турчанава, дык, як мне расказвалі, ён добра спявае, іграе на гітары, шмат чытае, работнікі раённай бібліятэкі характарызавалі яго, як аднаго з самых актыўных чытачоў.

Але ўсё-такі, пры ўсіх сваіх станоўчых якасцях, М. П. Турчанаў сёлета зрабіў адзін памылковы крок. Які? Ён, ведаеце, запісаўся ў літаратурны клуб «Субяседнік» пры раённай бібліятэцы... «Ну і што?» — спытаеце вы. Як гэта — што? Амаль адразу па райцэнтры, па ўсім раёне папаўзлі чуткі: клуб — гэта для прыкрыцця, на самай справе тут збіраюцца нефармалы, і Турчанаў у іх завадатар.

Быў, быў я ў гэтай раённай бібліятэцы, гутарыў з сімпатычнымі яе працаўнікамі — дырэктарам Ларысай Мікалаеўнай Качан, кіраўніком клуба, загадчыцай аддзела абслугоўвання бібліятэкі Зінаідай Фёдараўнай Канапелька. Строга я ў іх спытаў, чаму пад дахам бібліятэкі звілі сабе гняздо нефармалы, і трэба было бачыць, як са слязамі на вачах пачалі яны гаварыць мне, што ім не да жартаў, што клуб, які дзейнічае ўжо трэці год, прыйдзецца закрываць, бо на іх у гарадку ледзь не паказваюць пальцамі, маўляў, вунь яны, патуральніцы антыграмадскіх элементаў. Прадставілі мне жанчыны план работы «Субяседніка» на гэты год. Ведаеце, усё-такі нешта ёсць у ім падазронае. Хоць бы вось такія пункты: «Вечар рускага раманса». (Сапраўды, ці да рамансаў зараз?) «Паэтычны свет Гумілёва». (Зноў жа, многія ведаюць, што Гумілёў быў «не наш чалавек». Хоць і паэт, але царскі афіцэр, расстраляны органамі ЧК). Яшчэ пункт: «Белыя плямы гісторыі — абмеркаванне твораў А. Рыбакова «Дзеці Арбата», «35-ы год і іншыя», кнігі Д. Валкагонава «Трыумф і трагедыя», публіцыстычных артыкулаў М. Шмялёва». Вось бачыце... Я пацікавіўся, як праходзяць гэтыя «зборышчы». Жанчыны ажывіліся, пачырванелі ад задавальнення: «Вельмі цікава, людзі рыхтуюцца, выступаюць, спрачаюцца...».

— Усё, што пляткараць аб Турчанаве, я лічу лухтой, — сказаў мне ў час нашай даволі працяглай гутаркі У. С. Зябко, — але, усё-такі, я яму параіў, каб кінуў ён гэты клуб. Сказаў яму: «Там жа амаль адны жанчыны, ты мужчына малады, пачнуць нешта выдумляць, жонцы скажуць...».

Пабыўшы ў бібліятэцы, магу супакоіць Уладзіміра Сяргеевіча — у клубе не адны жанчыны. З трынаццаці яго членаў восем мужчынскага полу. Адна, праўда, загана ў тым клубе ёсць — большасць яго членаў — цэлых дзевяць — маюць вышэйшую адукацыю. Сярод іх настаўнікі, юрыст, аграном, камсамольскі работнік. Адным словам, інтэлігенцыя. «Можна ўявіць, пра што яны гавораць, калі збяруцца разам». Гэтая думка, хай і не вымаўленая ўслых, вісела ў паветры, калі я размаўляў з некаторымі службовымі асобамі ў Бешанковічах.

Старшыня райвыканкома Валерый Сцяпанавіч Кузняцоў пры нашай сустрэчы, абмаляваўшы складанае эканамічнае становішча раёна, выказаў думку, што ўсім нам трэба лепей працаваць, а не так, як «гнілая інтэлігенцыя», якая займаецца толькі размовамі і муціць ваду.

*«Гнілая інтэлігенцыя»*, як я зразумеў, адзін з любімых выразаў бешанковіцкіх кіраўнікоў. У артыкуле першага сакратара райкома партыі Анатоля Андрэевіча Сіўчыкава, змешчанага ў нумары райгазеты «Зара» ад 29 красавіка гэтага года, у тым месцы, дзе аўтар расказвае пра сваю багатую біяграфію, чытаю: «Так што не сакрэт для мяне, што такое хлеб і як неабходны, асабліва ў вёсцы, клопат кожнага калгасніка пра агульны дабрабыт. **Ведаю ўсё гэта па меншай меры лепш, чым, прабачце, які-небудзь гнілы інтэлігент з не зусім якаснай радаслоўнай, які выдае сябе за страснага «змагара перабудовы».** (падкрэслена мной. — **М. З.**).

*Мне не ўдалося пагутарыць* з А. А. Сіўчыкавым, яго ў гэты час не было ў раёне, так што можна толькі рабіць здагадкі, каго меў на ўвазе кіраўнік раёна. Але як бы там ні было, ды аднойчы, было гэта сёлетняй вясной, Турчанаву пазванілі з Віцебскай абласной пракуратуры і папрасілі прыехаць для сур'ёзнай размовы. Размову тую вяла з Мікалаем Пятровічам старшы памочнік пракурора вобласці па кадрах Лідзія Дзмітрыеўна Пісарава. «Дык які ты там клуб стварыў? — пытала яна ў малодшага калегі. — Пішы тлумачэнне».

У гэтую сваю камандзіроўку наведаў я і абласную пракуратуру, доўга гутарыў з Лідзіяй Дзмітрыеўнай, так што падрабязнасці той «гісторыі» ведаю і з яе вуснаў. А было, значыць, так: выклікаў яе да сябе пракурор вобласці Генадзь Апанасавіч Маладцоў і кажа: «Званілі *з абкома партыі, пытаюцца*, што ў мяне за кадры, маўляў, памочнік бешанковіцкага пракурора Турчанаў стварыў арганізацыю нефармалаў, патрабавалі разабрацца».

Лідзія Дзмітрыеўна зараз гаворыць, што адразу зразумела: усё гэта пустыя плёткі, якія некаму спатрэбіліся ў раёне, але быў загад патрабаваць тлумачэнне, і яна вымушана была выканаць яго.

— Выклік гэты мяне страшна абурыў, — расказваў мне Турчанаў, — хацеў адразу ісці ў абком...

У абком ён потым адправіць пісьмо на імя першага сакратара. Але гэта будзе пасля таго, як на пасяджэнні расшыранага бюро абкома, на якое былі запрошаны работнікі праваахоўных органаў вобласці, другі сакратар Віцебскага абкома партыі Яўген Іванавіч Радзецкі ў дакладзе пачне «выкрываць» Турчанава як чалавека, які скампраметаваў сябе сувяззю з нефармаламі. Тэрмінова ў Бешанковічы быў камандзіраваны інструктар абкома партыі Віктар Максімавіч Парфёнаў, які, як ён мне сказаў, на месцы хутка ўпэўніўся, што мае справу з нічым не пацверджанымі чуткамі, пра што і далажыў свайму кіраўніцтву. «Справа выедзенага яйка не вартая, і няма патрэбы да яе вяртацца», — *гаварыў мне ў* сваім кабінеце Віктар Максімавіч.

Адным словам, параіў забыцца на ўсё гэта, быццам нічога і не было. Але ж было. Так, плётка ёсць плётка. Як кажуць, «на чужой роток не набросишь платок». Але ж у дадзеным выпадку плётка была пушчана з далёкім прыцэлам. Кім? Адразу скажу — пошук мой у гэтым напрамку не ўвянчаўся поспехам. Ад гісторыі гэтай энергічна адхрышчваюцца зараз і ў райкоме, і ў райвыканкоме, маўляў, ці мала плеткароў у Бешанковічах. Толькі мне здаецца, не стаў бы другі сакратар абкома партыі карыстацца паслугамі выпадковага плеткара...

Асабіста я схільны пагадзіцца з думкай Лідзіі Дзмітрыеўны Пісаравай аб тым, што да Турчанава пачалі чапляцца ў раёне, таму што ён не прыйшоўся даспадобы мясцоваму начальству і яго вырашылі такім спосабам скампраметаваць.

Тое, што памочнік бешанковіцкага пракурора даўся мясцоваму *істэблішменту ў знакі*, пацвярджаюць шматлікія факты.

«Я даўно ведаю Турчанава, — гаварыў мне лектар райкома партыі, былы намеснік старшыні райвыканкома У. Жук, — некаторыя яго ўчынкі проста дзіўныя, зразумець іх цяжка». Што ён меў на ўвазе, так і не сказаў. Ці не тое, што Турчанаў з самага пачатку сваёй працы ў Бешанковічах «задраўся», як тут кажуць, з першымі асобамі раёна? Я чытаў яго артыкул у «Віцебскім рабочым», дзе пампракурора выказаў сваю думку наконт асабнякоў, пабудаваных мясцовым начальствам у старым парку.

**(Працяг на стар. 13).**

**ВІНШУЕМ!**

# ДАВЕР

*Віктару КАВАЛЕНКУ—60*



Шасцідзесяцігоддзе Віктара Каваленкі — гэта добрая нагода адзначыць не толькі плён шматгадовай працы аднаго з найбольш глыбокіх беларускіх літаратуразнаўцаў. У сувязі з юбілеем ёсць падставы для таго, каб паглыблена асэнсаваць шляхі беларускай літаратурнай навукі, яе месца і ролю ў духоўным жыцці народа, уплыў на грамадскую думку. У адным з ранніх артыкулаў, што ўвайшоў у кнігу «Давер» (1964), В. Каваленка пісаў: «Даволі працяглы час наша літаратуразнаўства шмат траціла ад недаверу да жыцця, прычым гэты недавер часта апраўдваўся тэарэтычна своеасаблівым, а праўдзівей — скажоным тлумачэннем праблем узаемасувязі праўды жыцця і праўды мастацтва. Распаўсюджаным было тэарэтычнае палажэнне, згодна якому праўда мастацтва ставілася над праўдай жыцця, а праўда жыцця мыслілася як нешта такое, што дае пісьменніку толькі штуршок для напісання твора, у лепшым выпадку дае бытавую фактуру».

Доўгі час у нашым грамадстве недавер быў афіцыйнай этычнай нормай. Недавер і падазронасць не зніклі да канца і сёння. Тыя, каму выгадна было трымаць народ у стане псіхалагічнага напружання, зводзілі ідэалагічнае жыццё да кампаніі па адлове ворагаў народа, дыверсантаў, шпіёнаў, касмапалітаў. Не зваліся і сёння паляўнічыя на створаныя імі ж прывіды калі не дысідэнтаў, дык экстрэмістаў. У такіх умовах, калі адчуваецца яўны дэфіцыт даверу, не кожны літаратар адважыцца давяраць сваім уласным назіранням, крытык — сваім эстэтычным пачуццям. З пачуццяў пачынаецца пошук ісціны. Той, хто яе не любіць, сёння таксама хацеў бы кіраваць людзьмі з прымітыўнымі эмоцыямі ці зусім без іх. Таталітарныя рэжымы трымаюцца там, дзе людзі не давяраюць сваім органам пачуццяў, не маюць выразнага ўяўлення пра свае патрэбы і прызначэнне.

В. Каваленка з першых крокаў у галіне літаратурнай крытыкі выказаў грамадскую прагу шчырасці — прагу духоўнасці. Творчы дыяпазон маладога даследчыка быў шырокі. Да гэтага часу помняцца яго раннія публікацыі не толькі ў галіне літаратурнай крытыкі, але і па пытаннях нацыянальнага кінамастацтва і ў галіне тэатразнаўства. Пазіцыя даверу заканамерна вяла крытыка на рубяжы змагання за гуманізм. У кнізе «Голас чалавечнасці» даследчык пісаў: «Ні разу яшчэ ва ўсёй гісторыі чалавецтва не здаралася так, каб прагрэсіўныя духоўныя каштоўнасці, заваяваныя ў барацьбе з рэакцыяй і цемрашальствам, перараджаліся пасля ў сваю супрацьлегласць. Яны праз некалькі стагоддзяў могуць страчваць сваю надзённасць, але ніколі не страчваюць свайго прагрэсіўнага зместу». На мове нашага часу гэта можна назваць змаганнем за прыярытэт агульначалавечых каштоўнасцей. Тады ж, калі пісалася кніга «Голас чалавечнасці», падобныя думкі называліся ў лепшым выпадку «абстрактным» ці «наіўным» гуманізмам, а то і проста прызнаваліся не нашымі ці шкоднымі.

Вывучаючы эвалюцыю гуманістычных традыцый у беларускай літаратуры, В. Каваленка прадэманстраваў дасканалае валоданне прынцыпамі гістарызму. У творчым абліччы В. І. Дуніна-Марцінкевіча даследчык убачыў гуманіста, які раскрываў тагачаснай інтэлігенцыі вочы на характ во душы працоўнага сялянства, лячыў яе ад маральнай слепаты і эстэтычнай глухаты. У творах В. Багушэвіча загаварыў сам народ, які ўздымаўся да асэнсавання сваёй магутнасці і трагедыі лёсу.

Не так даўно яшчэ чуліся грозныя папярэджанні тым, хто «праз меру» драматызаваў жыццё, шукаў «корань рэчаў». Патаемная мэта падобнага «кіраўніцтва» культурай відавочная: прыглушыць і прытупіць інтэлект — галоўны інструмент аналізу жыцця. Літаратурная крытыка з'яўляецца практычным увасабленнем магчымасцей духу, выказанага ў творы. Клопат пра «зброю крытыкі» не пакідаў В. Каваленку ніколі. Вопыт паасобных артыкулаў даследчык у свой час абагульніў у вялікай тэарэтычнай працы «Праблемы беларускай крытыкі» — па-свойму ўнікальнай у беларускім літаратуразнаўстве, паколькі ў нас наогул нямнога людзей, што могуць арганічна ўвязаць распрацоўку тэорыі крытыкі з практычным увасабленнем яе прынцыпаў у жыццё. Якраз-такі пачуццё любові да роднага слова з'яўляецца стымулам вялікай сілы, што рухае наперад тэарэтычную думку. В. Каваленка смела вырашае адну з важнейшых метадалагічных задач, калі піша: «У крытыцы не так і рэдка бывае, што калі трымацца блізка твора, то гэта азначае змярцвіць яго». Як бы хацелася, каб гэтую думку буйнога вучонага — у мінулым настаўніка — пачулі тыя, хто мае штодзённыя дачыненні да аналізу твора, — настаўнікі і метадысты. Некаторыя з іх проста-такі баяцца «змясціць» твор у такую густую атмасферу грамадскіх, эстэтычных і духоўных інтарэсаў сучаснасці, у якой лёгка адкрываўся б яго асноўны сэнс».

В. Каваленка ў сваёй працы зыходзіць з пачуцця абавязку перад родным мастацкім словам. Беларуская крытыка не сплаціла літаратуры свой доўг. Прычын таму нямала: адсутнасць галоснасці, значна большая залежнасць крытыкі, чым літаратуры, ад дыктату ўзведзеных на ўзровень афіцыёзу догматаў псеўдатэорыі. В. Каваленка і ў застойныя гады працаваў, не разыходзячыся з галоўным ідэйным кірункам беларускай літаратуры — пафасам барацьбы за духоўнае разняволенне чалавека.

Партрэт крытыка вызначаецца не толькі характарам яго змагання за ідэал. Не менш важнае значэнне мае і пытанне, супраць чаго і супраць каго змагаецца крытык. В. Каваленка ў кнізе «Прага духоўнасці» раскрыў вобраз сучаснага

*Водгукі, палеміка*

# КРЫТЫКА БЕЗ ДОКАЗАЎ

Напісаць гэты ліст мяне прымусілі апублікаваныя ў «Гродненской правде» за 10 лютага г. г. нататкі В. Агеева «Кто же вы такие?» і артыкул кандыдата гістарычных навук В. Чарапіцы «Будем честными друг к другу».

Тут змешчана суровая і, на мой погляд, не падмацаваная доказамі крытыка аднаго з гісторыка-культурных клубаў Беларусі — гродзенскай «Паходні» — з пэўнымі заўвагамі ў адрас некаторых іншых так званых нефармальных аб'яднанняў. Звязана публікацыя гэтых матэрыялаў з артыкулам арганізатара і кіраўніка «Паходні» прафесара кафедры гісторыі ГрДУ доктара гістарычных навук М. А. Ткачова «Кто мы такие», дзе расказваецца пра работу «Паходні» («Гродненская правда» за 6 студзеня г. г.).

Калі б я не ведаў асабіста дзейнасці клуба, то не пісаў бы. Але я выступаў перад «пахаднянамі» неаднойчы з навуковымі дакладамі па актуальных пытаннях беларускай гісторыі, прымаў удзел у арганізацыі і працы трох навуковых гістарычных канферэнцый, якія арганізоўвалі ці сама «Паходня», ці яе актыўныя сябры сумесна з іншымі арганізацыямі, установамі, грамадскімі таварыствамі (Гродзенскім медыцынскім інстытутам, фондам культуры, навуковым таварыствам гісторыкаў медыцыны). Таму я ведаю пра тую масавую гісторыка-культурную працу, якую вядзе «Паходня», пра шматлікія грамадскія пачынанні — ўпарадкаванне забруджанага рэчышча рэчкі Гараднічанкі, аператыўную абарону гістарычных помнікаў, якім пагражае разбурэнне, прапаганду роднай мовы і культуры, арганізацыю народнага універсітэта «Мінулае і сучаснасць Беларусі» і г. д.

Пра гэтую працу «Паходні» пісалі і станоўча яе ацэньвалі летась газета «Советская Белоруссия» (13.04.1988 г.), а сёлета «Голас Радзімы» (5 студзеня) і «Советская культура» (4 лютага). Аўтары публікацый адзначалі грамадскую актыўнасць сяброў суполкі і арганізатарскія здольнасці М. Ткачова.

Калі я прачытаў нататку В. Агеева, мне стала няёмка за аўтара. Ягоная зададзенасць і раздражнёнасць «Паходняю» і асабіста М. Ткачовым адчуваецца адразу.

В. Агееву ўяўляецца, што кожны, хто асмельваецца адысці ад кананічных дасюль думак, ставіць сябе па-за народам, па-за грамадствам. Кожнае іншадумства для В. Агеева — нагода для славеснай расправы. А вынік ягоных думак — «апеляцыя да гарадавога», якую стагоддзе назад высмеяў М. Я. Салтыкоў-Шчадрын.

В. Агееў прыпісвае клубу «Паходня» і яе кіраўніку думкі, якіх тыя, мяркуючы па яго нататках, не выказвалі, імкнецца прадставіць «Паходню» нацыяналістычным клубам, прычым робіць гэта груба, блытаючы гістарычныя факты, пра якія, дарэчы, у яго даволі цьмяныя ўяўленні. Так, ён сцвярджае, нібыта Беларуская Народная Рада была створана кайзераўскімі войскамі! Але, калі зазірнуць у кн. «Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя» (Мн., 1978. Т. 1, ст. 101), вынікае, што Рада была абвешчана ў ліпені 1917 г., а нямецкія войскі акупіравалі тую частку Беларусі толькі ў лютым 1918 г. і разагналі Раду. В. Агееў сцвярджае, што тая ж самая Рада дзейнічала ў 1940-я гады, хоць, згодна прыгаданай кнізе, Рада самараспусцілася ў 1925 г.

Навошта В. Агееву спатрэбілася згадваць Раду? Мабыць, для таго, каб намёк падпусціць: «Корни её (Рады. — **В. Г.**), думаю, тянутся и в сегодняшний день».

Дзіўным выглядае і сцвярджэнне В. Агеева, нібыта ў БССР існуе нейкі таямнічы «нацыянальны фронт». Усім вядома, што ў рэспубліцы ствараецца не **нацыянальны**, а **народны** фронт. І ствараецца не толькі ў спрэчках і дыскусіях (што само па сабе натуральна), але пры актыўным супрацьдзеянні бюракратыі. Пра гэта ні В. Агееў, ні В. Чарапіца не гавораць, хоць партыя лічыць бюракратыю адным з асноўных элементаў тармажэння перабудовы.

А чаго вартае патэтычнае пытанне да «Паходні»: «Почему вы не идете на сплочение народа, на обновление общества? Создавая группы (якія, аўтар не тлумачыць. — **В. Г.**), отвлекаете людей от основных задач нашей перестройки».

Не падмацаваныя канкрэтным матэрыялам абвінавачванні В. Агеева ў адрас «Паходні» хай застаюцца на яго сумленні. А вось з меркаваннем дацэнта В. Чарапіцы варта азнаёміцца больш грунтоўна. Як-ніяк гэта калега па працы доктара навук М. Ткачова, нават ягоны начальнік — дэкан гістарычнага факультэта Гродзенскага універсітэта.

Цікава, што В. Чарапіца, як і В. Агееў, спрабуе выступіць таксама не толькі ад свайго імя. «Всё чаще общественность задается вопросом — куда идет «дружина», освещаемая светом паходни, что в ее словах и деяниях заслуживает поддержки, а что и неприятия». На жаль, аўтар рытарычнага пытання аб «деяниях дружины» не тлумачыць, якая менавіта частка грамадскасці задаецца пытаннем наконт «Паходні», што робіць ягоную пазіцыю трохі цьмянай.

Зрэшты, гэтай «туманнасці» хапае ў тэксце. Аўтарская пазіцыя крыху праясняецца, калі ён прызнаецца, **што** яго засмучае ў паводзінах таварыства. Гэта адыход «от решений прежних историко-культурных задач в сторону своеобразно понимаемой «политизации», появление односторонних суждений по проблемам национального и межнационального апломба и амбициозности, стремление к приоритету в обсуждении всех вопросов общественной жизни».

Але В. Чарапіца чамусьці не раскрывае сэнсу «своеобразно понимаемой политизации», дэкларуючы яго. Такім чынам, аўтара хвалюе сам факт наяўнасці «своеобразия», а не ягоны канкрэтны змест.

Папрок В. Чарапіцы ў тым, што «Паходня» выказвае «односторонние суждения по проблемам национального и межнационального, апломб и амбициозность», імкнецца «к приоритету в обсуждении всех вопросов общественной мысли», быў бы слушным, калі б такое мела месца ў адной «Паходні». Але ж гэта ўсеагульная з'ява! Ва ўсялякім грамадстве і таварыстве ёсць крайнія (левыя і правыя) «ухілы». І гэта натуральна. Гэта трэба мець на ўвазе і не баяцца. А вось куды вядзе кіраўніцтва «Паходні», яго калектыўная думка, як яна сама, папершае, ацэньвае гэтыя ўхілы, — аб гэтым трэба гаварыць. У асобе Міхася Аляксандравіча Ткачова мы маем сапраўднага лідэра — тактоўнага, дыпламатычнага, аўтарытэтнага.

Яскравы прыклад таму — 30 кастрычніка 1988 г., дзень «Дзядоў», калі быў знойдзены кампраміс паміж уладамі і ініцыятыўнай групай «Паходня» (Назва «нефармалы», на мой погляд, да гісторыка-культурнага клуба не надта пасуе. Нефармалы, на маю думку, хутчэй, нейкія маладзёжныя групы па густах — рокеры, металісты і г. д.).

Папярэдне В. Чарапіца прызнаецца, што «не был ни разу на заседаниях «Паходні», а слухам не привык доверять». Адкуль жа бярэ ён такія сур'ёзныя абвінавачванні? Аказваецца, з выдання Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне» і «Звароту ініцыятыўнае групы канфедэрацыі беларускіх суполак».

В. Чарапіца піша, што «возможностей для подробного анализа указанных документов и фактов нет, но их оценку, данную «Советской Белоруссией» от 16.XI. 1988 г., я разделяю». Далей В. Чарапіца канстатуе, што падзяляе і думку пра згаданы «Зварот» часопіса «Политический собеседник (1989 г., № 1).

Дзе ж асабісты погляд В. Чарапіцы? Чытачу ён застаецца невядомым.

Адсутнасць варыянтных крыніц інфармацыі заканамерна спараджае ўспрыманне ўсялякай публікацыі як афіцыйнага пункту погляду. Таямнічыя спасылкі В. Чарапіцы на дакументы тыпу «Звароту», якія мала каму вядомыя (але заведама шкодныя, па характарыстыцы дэкана), паглыбляюць такое ўспрыманне, хоць для чытача «Гродненской правды» застаецца сакрэтам, што менавіта прапануе «Паходня». І вось гэтая таямніца падвяргаецца з боку дэкана крытыцы.

В. Чарапіца папікае М. Ткачова тым, што ў ягоным артыкуле нібыта няма «глубокого, честного и непредвзятого отношения к пути, пройденному белорусским народом от Великого Октября до XIX партконференции», і няма месца «достижениям белорусского народа за годы Советской власти». Ці ж была задача М. Ткачова расказаць пра ўсё гэта ў артыкуле, прысвечаным зусім іншай тэме? Дзіўна чытаць такое «абвінавачванне».

Прыхільнікаў пісаць пра дасягненні (да чаго заклікае М. Ткачова дэкан) сярод гісторыкаў у нас хапае. Пра страты пісаць хацелася мала каму. Калі М. Ткачоў пра гэта чэсна піша, дык, з пункту погляду прыхільнікаў «заздравного» стылю гісторыі, ён «прадузяты». Добра, што прадузяты. Бо не толькі піша, а разам з энтузіястамі з «Паходні» дапамагае ліквідаваць нашы страты — страты

**Не памятаю ніводнай калькі-небудзь сур'ёзнай сустрэчы кінематаграфістаў, на якой бы не гаварылася аб тым, што такое нацыянальнае беларускае кіно, ці ёсць сэнс даследаваць яго традыцыі, ці можна вызначыць канцэпцыю яго развіцця на будучае. Не стаў выключэннем і апошні, XVII агляд-конкурс работ кінастудыі «Беларусьфільм». Прагледзеўшы іграву праграму конкурсу, паставім і мы пытанне: якія асаблівасці нашага нацыянальнага кіно?**

## Кіно

# У імгненні перадаць бясконцасць

Пытанне вельмі складанае: перш чым даць на яго адказ, трэба вызначыць, ці ёсць увогуле ў нас кінематограф, які варты называцца нацыянальным. Не з'яўляючыся вялікім знаўцам тэорыі кіно, мастацкага вобраза, асаблівасцяў кінамовы, не ведаючы падрабязнасцяў этнаграфіі, побыту, вы беспамылкова змаглі б вызначыць грузінскае нацыянальнае кіно, украінскае, прыбалтыйскае. Нацыянальныя Таркоўскі, Міхалкоў-Канчалоўскі (нацыянальным духам прасякнуты і тыя іх карціны, што зняты за мяжой), Аўчароў, Герман, Мамін... У нашай свядомасці імя Бергмана трывала спалучылася з паняццем «шведскі кінематограф». Феліні, Антаніёні — гранічна розныя, але ў сваіх фільмах — перш за ўсё італьянцы. Як Бунюэль і Саура — іспанцы, Рэне і Труфо — французы. Гэта імёны сусветнага маштабу. Іх кінематограф блізкі чалавеку любой нацыянальнасці. Невыпадкова і дырэктар Мельбурнскага кінафестывалю ў свой час прызнаваўся, што фільм грузінскага рэжысёра Т. Абуладзе «Дрэва жадання» памог яму лепш зразумець самога сябе. У гэтым парадокс мастацтва: чым больш нацыянальнага — тым больш агульначалавечага.

...Ці адчуваем мы ў нашым штодзённым жыцці прысутнасць беларускага кіно? Ці адчуваем яго «подых»? Ці прыкметна яго ўздзеянне на нас? (Кіно ж здольна, як ніякі іншы від мастацтва, быць уладаром і дум, і душ). На жаль, адказ будзе адназначны. Наш кінематограф пазбаўлены сілы ўздзеяння, бо ён існуе як факт побыту, але адсутнічае як знак быцця. Ён пазбаўлены вялікай сілы аб'ядноўваць, бо існуе ў разрозненых кінаадзінках. Ёсць фільмы, але няма адзінай, цэласнай мастацкай з'явы.

Доўгі час у паняцце «нацыянальнае» ўваходзілі бясконцыя беларускія «баевікі», сцэны з партызанскага жыцця. Магчыма, таму і заслужыла наша студыя ў 70-я гады іранічны назоў «партызанфільма». Вайна сапраўды стала нашай агульнай трагедыяй. Яна наскрозь пранізала нашу нацыянальную свядомасць. Лепшыя ўзоры ваеннага беларускага кіно — «Праз могілкі», «Я родам з дзяцінства» В. Турава, «Сведка» В. Рыбарава — спробы выявіць нацыянальны характар, нацыянальнае асяроддзе, атмасферу. Гэтыя фільмы помняцца, таму што яны напоўнены не проста праўдай дзеяння, а праўдай пачуцця. Вялікую частку іншых «ваенных» фільмаў цяжка назваць мастацкімі ў вышэйшым сэнсе гэтага слова. Пачуццё, чалавек, а часам і само дзеянне былі ў іх ілжывыя. Цяпер, дзякуючы нашаму «новаму бачанню», веданню гісторыі, яны яшчэ больш пабляклі, ператварыўшыся ў манументы эпохі лжэпафасу, якой і былі народжаны.

Сёння кінематограф схіляецца ўсё больш у другі бок — бліжэй да сучаснасці. «Гамункулус» (рэж. А. Карпаў-малодшы) расказвае нам аб трагедыі кінутых дзяцей, «Мяне клічуць Арлекіна» (рэж. В. Рыбараў) — аб драматычных момантах у сучасным свеце моладзі... Гэтыя стужкі ў поўным сэнсе слова надзённыя. (Не магу не стрымацца, каб не прыгадаць у сувязі з гэтым трапную заўвагу вядомага філосафа, культуролага Г. Гачава: «Но попечение автора да будет не о Злобо-дневности, а о Добро-годности. Разум восхищенный да противостоит кипению разума возмущенного».) Рэжысёры, чуйна зважаўшы на сацыяльныя праблемы нашага жыцця, адразу ж вынеслі іх на экраны. Але цяперашнія праблемы так і засталіся цяперашнімі. Яны досыць пазнавальныя. Не больш. Экранныя творы зафіксавалі імгненне часу... Мастацкі вобраз і ў «Гамункулусе», і ў «Арлекіна» адназначны і аднамерны. Мы, гледачы, знаходзімся ўвесь час ў адведзенай нам экранным палатном прасторы. Наша чалавечая інтуіцыя паралізавана. Мы ўспрымаем усё, што адбываецца ў фільмах, не маючы магчымасці спрацыраваць убачанае на наша агульначалавечае жыццё. Вобраз, паводле законаў парадоксаў мастацкага твора, злучае незлучальнае — канкрэтнасць і шматзначнасць, сіюмінутнасць і пазачасавасць. Ён спасцігальны і неспасцігальны (у сілу сваёй бясконцасці) адначасова. Мастакі ж сёння трывала прывязаны да канкрэтнасці бытавання. Яны пазбавілі сябе магчымасці ўзняць побыт да ўзроўню быцця, злабадзённасць — да «доброгодности». У фільмах няма таго, што С. Аверынцаў называў «інтымным перажываннем праблематыкі эпохі». Гэтага інтымнага перажывання аказаліся пазбаўленыя і мы, гледачы.

**Ствараецца ўражанне, што ўвесь наш айчынны кінематограф перажывае чарговы выбух дакументалізму (першы быў у 60-х). Звязана гэта, відаць, з тым, што з'явілася магчымасць падзяліцца адкрыта, на поўны голас, з пазнаным, убачаным, ці з тым, што доўга захоўвалася пад замкамі маўчання. З'явілася магчымасць вызваліцца ад ціску душэўных перажыванняў. Дакументальнае стала сутнасцю, асновай ігравога кіно. Але не заўсёды гэта злучэнне дае паўнацэнны мастацкі сплаў. Бо дакументальнае ў дадзеным выпадку сінанімічна таму ж сіюмінутнаму, аднамернаму. Рэжысёры нібы стартавалі на кароткую дыстанцыю, спаборнічаючы, хто хутчэй, спрытней ды грамчэй ухопіцца за самае-самае, хто раней выдасць на-гара самы найноўшы факт. Магчыма, гэта часавыя выдаткі цяперашняй сітуацыі, калі ўсе мы знаходзімся ва ўладзе фактаў, калі нашымі думамі авалодваюць падзеі, дакументы. Час роздуму, відавочна, яшчэ наперадзе...**

Несумненна, фільм «Наш бронецягнік» (рэж. М. Пташук) — адзін з цікавейшых фільмаў студыі. Несумненна і тое, што ён будзе заўважаны (ды і ўжо заўважаны) гледачамі, бо адпавядае сённяшняй патрэбе людзей у злабадзённасці. Галоўны герой Кузняцоў (В. Гасцюхін) — з былых верных вартавых сталінскіх засценкаў. Знаходзячыся ў стане «былога», ён здзяйсняе «падарожжа» ў свет жывых зданняў. Сустракаючыся з «калегамі», такімі ж «былымі», ён раптам усведамляе ўсю няправеднасць пражытых гадоў. Па сутнасці, Кузняцоў ёсць ні што іншае, як знак трагічнага краху ілюзій, веры. А фільм — не знак перасцярогі, бо здані «цёмнага царства» ўсё-такі жывыя і вось-вось зменяць сваё аблічча.

Але чамусьці немагчыма пазбыцца адчування, што фільм гэты прапаноўвае толькі суму канчатковых вобразаў-знакаў, цалкам пазбаўленых цэласнай вобразнай сістэмы. Карціна насычана злабадзённай гісторыяй, але пазбаўлена гістарызму сучаснасці. Як важна было б менавіта ў гэтай рабоце па-мастацку адлюстраваць час-прастору, таму што менавіта такі фільм і маральна, і эстэтычна патрабуе ўвасаблення вядомага прынцыпу: «кіно — зафіксаваны час». Час і прастора перадаюцца не толькі (і не столькі) праз рэаліі асяроддзя, побыту, колькі праз кампазіцыю, рытм, і павінны раствараццца ў пластычным асяроддзі фільма, з'яўляцца тым «лёгкім подыхам», які пранізвае ўсю кінематаграфічную структуру. Час — гэта не толькі знешняе, але і ўнутранае — і назіранне, і адчуванне. Вось што было важна — перадаць аўтарскае адчуванне часу, сваё, аўтарскае, стаўленне да яго падзей. Асабістае стаўленне рэжысёра стала б індывідуальным вопытам кожнага, хто сядзіць перад экранам.

Пры адсутнасці такога паняцця, як «асабістае», твор ніколі не ўздымаецца да ўзроўню мастацтва. Асабістым прадвызначана ўсё, што ёсць у фільме: і змест, і форма. Неабходна таксама, каб і ў цэнтры мастацкага твора была асоба. Як важна было ў «Дуброўскім» (рэж. В. Нікіфараў) убачыць асобу героя, дакрануцца да яго памкненняў і веры. І як важна было адчуць, адкрыць раптам яго прысутнасць у асобе, цяперашнім чалавеку. Быў жа такі момант радаснага судакранання-спазнання ў Базараве (фільм «Бацькі і дзеці» быў пастаўлены таксама В. Нікафаравым), у нскага — у Кірсанавых або ў Фенечцы. Была гэтая магічная сувязь паміж сучаснасцю і класікай на экране.

У траекураўскім разгуле, запойным шабашы, у страце ўсялякіх маральных прынцыпаў проста чытаюцца сучасныя аналогіі. Менавіта ў гэтай падкрэслена-грамадскай устаноўцы аўтара не знайшлося месца пачуццям герояў. Дуброўскі (М. Яфрэмаў), Мар'я Кірылаўна (М. Зудзіна) — па-за каханнем. У іх ёсць плоць, але няма духу. А таму і ідэя твора (каханне выратуе свет) засталася неўвасобленай.

Ідэя, герой, характар, сістэма маральных каштоўнасцей, атмасфера, час — усе гэтыя катэгорыі нацыянальныя. Думаецца, што ў пералічаных карцінах іх якраз і не выяўлена. Самае важнае, каб у нацыянальнай культуры адчуваўся нацыянальны ідэал. Паўтару думку творцы, які ўсёй сваёй дзейнасцю даводзіў неабходнасць імкнення да ідэалу (і ў гэтым быў глыбока нацыянальны): «Імкненне да дасканаласці прымушае мастака рабіць духоўныя адкрыцці, пастаянна падштурхоўваць сябе на максімальнае духоўнае намаганне. У імкненні да абсалюту рухаючая тэндэнцыя развіцця чалавецтва, адпаведна — і мастацтва. Мастацтва рэалістычнае тады, калі яно імкнецца выявіць духоўны ідэал. Рэалізм — гэта імкненне да ісціны, а ісціна заўсёды цудоўная. У гэтым сэнсе эстэтычная катэгорыя суразмерна этычнай» (А. Таркоўскі). Гэтага ідэалу не адчуваюць беларускія майстры экрана. Іх фільмы пазбаўлены святла, выйсця да надзеі. «Гамункулус», «Мяне клічуць Арлекіна», «Наш бронецягнік», «Дуброўскі» — беспрасветныя. Іх героі злыя, агрэсіўныя. І справа нават не ў тым, што іх драма прадвызначана драматычнасцю нашага жыцця, гісторыі. Яны пазбаўлены ідэальнага пачатку, які заўсёды закладзены ў жыцці. Можа, пазбаўлены яшчэ і таму, што страчаны наш агульны нацыянальны ідэал...

**Людміла САЯНКОВА.**

## З паэтычнай пошты

**Віктар ШУТКЕВІЧ**

### Зрок сэрца

Ёсць рэчы,
Якія ты можаш убачыць,
Толькі заплюшчыўшы вочы:
Яблыньку на загароддзі,
Ля якой ты калісьці
Сустракаў першы снег,
Сляды тваіх ног на ўзлессі,
Занесеныя лістападам,
Сябра, якога
Ніколі не вернеш...
Гэта — зрок сэрца.
І калі чалавек яго страціць —
Ён сляпы,
Нават маючы
Цалкам здаровыя вочы.

### Чорныя чаўны

З белага маўклівага туману
Выплываюць чорныя чаўны —
Успаміны сведкаў той вайны.
І ніяк чамусьці не прыстануць
Да другога, новага жыцця...
Бераг іх — за морам забыцця.
Ён не адштурхне іх, не падмане.
Зноў чаўны хаваюцца
ў тумане...

### Хутары

Блукаю на месцы
Былых хутароў
І здзіўляюся:
Як хутка дзічэюць,
Зарастаюць сады,
Калі застаюцца
Без гаспадарскага вока.
Здаецца ж, нічога тут
Без яго не змянілася:
Тое самае неба,
Тая ж зямля і вада.
Хіба што стала крыху халадней,
Зусім непрыкметна —
На цеплыню
Чалавечага подыху.

●

Крык зязюлі — да
нараджэння дзіцяці.
(Народная прыкмета).
Не кувай ты, шэрая зязюля,
у маім бары...
(М. БАГДАНОВІЧ).

Закувай ты, шэрая зязюля
У маім бары!
Мо пашчасціць дачакаці
зноў дзіцяці
Вёсцы ля гары.
Той, што не спявала калыханак
трыццаць мо гадоў,
Што у свет адправіла так рана
дочак і сыноў.
Хай смяюцца, кажуць, што
запозна — зноўку закувай!
Але дзетак у чужыя гнёзды
больш не аддавай...

### Гараджанкі

Дзве белагаловыя дачкі —
Два маіх сланечнікі цыбатых —
Выраслі не ў полі ля ракі
І не ў агародзе каля хаты.
Ім аблокі нянькамі былі,
А калыскай — дом
шматпавярховы.
Толькі ж і далёка ад зямлі
Выспяваюць словы роднай
мовы...

### Падарунак

Светлай памяці Р. Р. ШЫРМЫ, народнага артыста СССР

Славуты зямляк
Прыслаў мне калісьці
У падарунак
Дзіцячую кніжку —
«Казкі Пушкіна».
З маленства я ведаў
Пра песні,
Якія спявала паэту
Арына Радзівонаўна —
Ягоная няня.
І толькі дарослым даведаўся,
Што, акрамя яе песень,
Ёсць яшчэ песні
Рыгора Раманавіча...

### Прызнанне

Дзякуй табе,
Мой народ,
Які даў мне жыццё і радзіму,
За тое,
Што ніколі яшчэ
Ў чужых людзях
Мне не давялося саромецца
Таго, што я —
Беларус.

г. Варшава.

**Алесь БІБІЦКІ**

### Цішыня

Ноч. Стаіць цішыня,
Ды такая нямая,
Нібы хто ў далонях
Наваколле трымае.

Горла птах не дзярэ.
Сціхлі зоры над логам.
І нячутна арэ
Месяц светлым нарогам.

Вецер крылы свае
Апусціў у знямозе.
Толькі бомкі мае
Срэбра льюць па дарозе.

●

Кукуе птаха у бары
Так, як прызначыла прырода...
І мне той мовай гаварыць,
Што маці ўскрыквала пры
родах.

Няхай камусь і рэжа слых
Вязьмо са слоў «бадай
не трэба»,
А мне — як хваляў ускалых
На збранзавелым моры хлеба.

Як абруселі гарады!
Час ад загубы ратавацца...
Зрачыся мовы — дык тады
Ці ж беларусам можна звацца?!

●

Каля рэчкі памаўчу,
Пагляджу на плынь, на хвалі,
Ды тугу сваю ж у далеч
Адпускаць я не хачу.

Хай яна жыве ўва мне
І не дасць агню затухнуць.
Нават хвалі нікнуць, глухнуць,
Як іх вецер не кране.

Так і мне, я не хлушу,
Не замроіцца прастора,
Як туга сплыве за мора,
Апустошыўшы душу.

Пінскі раён.

*Выстаўкі*

# Надзея застаецца...

## Польскі партрэт у Мінску

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР у рамках Дзён ПНР у СССР праходзіла выстаўка «Сучасны польскі партрэт і аўтапартрэт. 1944—1988». Вялікая экспазіцыя прыехала з горада Радама, бюро мастацкіх выставак якога спецыялізуецца на мецэнацтве, падтрымцы і развіцці жанру партрэта. Радамскае Бюро нават праводзіць міжнародныя трыенале партрэта. Між іншым, супрацоўнікі бюро Э. Пежыньска-Ельска і А. Ельскі запрашаюць беларускіх жывапісцаў і графікаў прыняць удзел у V трыенале «Радам-90» (творы прымаюцца да лістапада 1989 г., не пазней).

Цяпер звернемся да выстаўкі. Калі б гэты агляд пісаўся ў часы вульгарна-сацыялагічнага аналізу мастацтва, то трэба было б абавязкова адзначыць, што радамская экспазіцыя прадстаўляе шырокую карціну польскага грамадства: рабочыя і народная інтэлігенцыя, кааператыўныя сяляне, мастакі і пенсіянеры... Можа, такі метад і адлюстраваў бы частку рэчаіснасці, але трэба дзеля аб'ектыўнасці дадаць «бомжаў» і фарцоўшчыкаў, прастытутак і дэкласаваных элементаў. Шырокая карціна атрымалася «аж надта» стракатай і супярэчлівай. Аматары аднадушнасці і беспраблемнасці застануцца, безумоўна, незадаволенымі: гэта ж які прыклад моладзі, што і без таго рвецца на свет божы з храмаў аўтарытарнасці.

А пачынаецца выстаўка так ціхенька, з такой знаёмай акадэмічнай статыкі мастацтва 40—50-х гадоў. Цагляр з аптымістычнай усмешкай б'е цагліну малатком, мастак з гонарам назірае сябе ў аўтапартрэце. Кожная шрубка на сваім месцы, кожны займаецца сваёй справай. Ды і Катавіцэ называлася тады Сталінаградам.

Але і за «жалезнымі заслонамі» не згасла творчае жыццё, не на пустую глебу прарываліся светлыя плыні. Польскі народ не хацеў забыцца, што ягонае мастацтва — частка агульнаеўрапейскай культуры. Калі ў нас толькі нядаўна знялі кляймо праклёну з «буржуазных ізмаў», то польскае мастацтвазнаўства нядоўга хварэла на прапагандысцкую ліхаманку.

Каларыстычныя эксперыменты К. Буцкага, Е. Тхужэўскага, Б. Ёншэр, З. Пранашкі пазбавілі польскі партрэт спакойнага існавання. Сама экспазіцыя на ўчастку 50—60-х гадоў зазіхацела фарбамі, злучанымі ў смелыя гамы. Колер у гэтых творах не самамэта, а носьбіт эмоцый, перажыванняў, адлюстраванне тэмпераменту і характару.

Ідзём далей. А галоўнае наперадзе. Польскае партрэтнае мастацтва за апошняе дваццацігоддзе зрабіла такі рывок, што, назіраючы ягоныя вынікі, губляеш раўнавагу. Здаецца, парушаны ўсе законы іерархіі жанраў, класічны вобраз партрэта. Многія з гэтых твораў не столькі партрэт мадэлі, колькі настойлівае, часта экстравагантнае самавыказванне мастака на чалавечым матэрыяле партрэтуемага. Аўтапартрэт жа—не столькі саманазіранне (шмат абліччаў, зацягнутых цемрай, адвернутых убок), колькі праекцыя вострых светапоглядных праблем на сябе і сваё аўтапартрэтнае наваколле. Галоўнае ўражанне ад большасці карцін — нераўнадушнасць творцаў, незамкнёнасць у сценах майстэрні.

Адной партрэтнай кампазіцыі С. Мазусю паказалася мала. Дыптых, прысвечаны С. Гаеўскаму, дэманструе побач з тварам і патыліцу. Можа, аўтар правакуе гледача? Што ж, ён мае на гэта права.

Я даўно ўжо сачу за творчасцю А. Гюнтнер. Сюррэалістычныя партрэты мастачкі не глядзяцца другаснымі ў рэчышчы творчасці вялікага бельгійца Р. Магрыта. Жаночая грацыя, вытанчанасць форм становяцца ў іх галоўнымі. А побач з імі эфектныя салонныя пастэлі Я. Саламона. І гэта не апошняя нечаканасць экспазіцыі.

«Аўтапартрэт — хрышчэнне» Е. Алексяка, аўтапартрэтны трыпціх К. Яцкоўскага ў выглядзе вогненна-чырвоных масак, самаздзеклівы аўтапартрэт П. Ласіка—экстрэмальныя пункты экспазіцыйнага шэрагу. А для нашага гледача будзе шмат такіх экстрэм.

Напрыклад, істэрычна-крыклівы, чырвона-чорны квадрыпціх (якая цяга да шматкампазіцыйнасці!) Я. Маліка, узнікаючыя ў цяжкім паветры абліччы герояў Р. Келтыка, чалавека-манекены А. Жэпкі... Складваецца нават уражанне, што мастакі часцей за ўсё пікіруюць уніз. Што рамантычныя высоты жыцця не вабяць іх.

Сацыяльны крытыцызм, а можа, жорсткая канстатацыя духоўнага крызісу ў партрэтнай кампазіцыі А. Навацкага, дзе аблічча зарастае джынсавай тканінай, а на целе выступаюць рэкламныя «лэйбы»... Або ў творах М. Каліноўскага, дзе мастак пакідае нас сам-насам з наркатычным кашмарам...

І ўсё ж застаецца надзея, што прыгажосць уратуе свет.

**Валерый БУЙВАЛ.**

# ЯКІМ БУДЗЕШ, МІНСК?

## З прэс-канферэнцыі ў гарвыканкоме

Яшчэ зусім нядаўна мы не хавалі радасці, даведаўшыся, што ў Мінску ўзводзіцца новы завод ці фабрыка. Ганарымся — сталіца рэспублікі гатова дагнаць, а то і перагнаць самыя буйныя прамысловыя цэнтры краіны. Віталі з'яўленне спачатку мільённага, а потым і паўтарамільённага жыхара...

**Гучала бадзёрая песня «Мой горад — герой-патрыёт», а беларуская сталіца тым часам усё ніяк не магла развітацца з пабудовамі барачнага тыпу. У «вечназялёным» Мінску штогод выкідваецца на кожнага жыхара 100 кілаграмаў шкодных рэчываў. Трэба пабудаваць больш за 120 тысяч кватэр — такая чарга сёння ў Мінску на жыллё. Але ж не трэба забываць, што кожны год насельніцтва горада павялічваецца недзе на 35—36 тысяч чалавек. З іх так званы «механічны прырост» — каля 20 тысяч чалавек. Кіраўнікі асобных прадпрыемстваў лічаць за лепшае прыцягваць рабочую сілу ці з вёскі, ці з іншых гарадоў. Для параўнання: штогод у горадзе будуецца 17 тысяч кватэр...**

**Гэтыя і многія іншыя лічбы прагучалі на чарговай прэс-канферэнцыі па пытаннях удасканалення праграмы падрадных работ Галоўмінскбуда на 1990 год і наступныя гады, праведзенай Мінгарвыканкомам.**

Прызнацца, сама назва прэс-канферэнцыі не давала падстаў спадзявацца, што размова на ёй выйдзе за рамкі традыцыйных «паляпшэнняў», «выкананняў», «датэрміновых узвядзенняў». Аднак, як высветлілася, не ў назве справа. І вядучы прэс-канферэнцыі старшыня Мінгарвыканкома У. Міхасёў, і яго намеснікі Р. Цішкевіч і М. Макаед, а таксама начальнік Галоўмінскбуда В. Чычурын і начальнік Галоўмінскархітэктуры Я. Кавалеўскі прынцыпова гаварылі аб тым, што трэба зрабіць у бліжэйшы час, каб першаступенная ўвага надавалася аб'ектам сацыяльнага прызначэння.

Прызнанне складанасці становішча, у якім апынуўся горад, ужо само па сабе сумленна. Але, будзем шчырымі, бывала і так, што многае прызнавалася, але нічога не рабілася. Цяпер пазіцыя гарадскіх улад іншая. У. Міхасёў, ды і іншыя, хто выступаў у час сустрэчы, звярталіся да журналістаў — умяшацца, дапамагчы, каб, напрыклад, завод імя Вавілава не ўзводзіў гальванічны цэх. Гэта ж ля самага парку імя Чэлюскінцаў, аднаго з галоўных мінскіх зялёных масіваў!

Прысутныя запыталіся, а якая пазіцыя наконт гэтай будоўлі народнага дэпутата СССР Я. Кавалеўскага? Галоўны архітэктар горада адказаў шчыра: «Я буду катэгарычна супраць. Калі патрэбна, зраблю адпаведнае дэпутацкае запытанне!» Будзем спадзявацца, што гальванічны цэх усё ж не ўдасца «пасадзіць» ледзь не ў самім парку. Гэтаксама будзем спадзявацца, што будзе закрыта і ліцейка завода імя С. М. Кірава (такое рашэнне ўжо ёсць).

Яшчэ некалькі лічбаў. Калі раней аб'екты сацыяльнага прызначэння ў гадавым плане будаўніцтва займалі толькі 30 працэнтаў, дык у 1990 —80. У параўнанні з мінулым годам прырост складае 20 працэнтаў. Канечне ж, нямала. Ведаем, як даводзіцца кроіць-перакройваць бюджэт, каб не ўпусціць з полю зроку найбольш важныя аб'екты.

Як быццам на 1990 год усё ўлічана. Але знаёмішся з праграмай падрадных работ, якая загадзя была раздадзена кожнаму ўдзельніку сустрэчы, і бачыш, што сярод аб'ектаў, якія падлягаюць у наступным годзе кансервацыі, — канцэртная студыя Дзяржтэлерадыё БССР, прыбудова да Дзяржаўнага мастацкага музея БССР; не будзе распачата і будаўніцтва новага вучэбнага корпуса Мінскага інстытута культуры.

Праўда, дакументы гэтыя — пакуль што праект...

**НАШ КАР.**

# Захавальніца матулiных песень

## ДА 125-годдзя з дня нараджэння Е. М. ГАРЭЦКАЙ

Не, гэтага звання ёй не надавалася пастановай улады, не выпісвалася спецыяльнае пасведчанне. Яна была народнай спявачкай па прызванні, душэўным прызначэнні, па сваёй чалавечай і жаноцкай сутнасці. А яшчэ яна была Маці. Маці сваіх дзяцей. Сыноў. Тых, што сталі гордасцю і сумленнем беларускага народа. Класікамі ў поўным значэнні гэтага слова. Максім — класік літаратуры. Гаўрыла — класік у навуцы.

Нарадзілася Ефрасіння Міхайлаўна 6 ліпеня 1864 г. на Мсціслаўшчыне ў в. Слаўнае, неўзабаве пасля адмены прыгоннага права. Лёс яе быў такі ж, як і іншых сялянскіх дзяцей таго часу. Была пастушкай, дапамагала маці па гаспадарцы. Вучыцца не было дзе. Засталася непісьменнай, аб чым ужо ў немаладым узросце не раз шкадавала. З дзяцінства чула песні старэйшых, сама спявала. Калі пыталіся, як навучылася песням, шчыра адказвала: «Я і сама не ведаю, калі ім навучылася».

Неўпрыкмет надышлі гады дзявоцтва. У кароткія перадышкі паміж нялёгкай працай спявала з сяброўкамі, завівала вянкі. А потым стала жонкай Івана Гарэцкага ў суседняй вёсцы Малая Багацькаўка.

Не часта выпадала радасць. Затое клопатаў не адабрацца. Хутка павялічвалася сям'я: Іван, Максім, Парфір, Гаўрыла, Ганна. Кожнага трэба даглядзець, парупіцца, каб і апрануты былі, і накормлены. Яшчэ двое памерлі малымі. З горасцю не раз успамінала тых хлопчыкаў. Дзецям аддавалася асноўная ўвага. У канцы жыцця з выключнай цеплынёй успамінаў Гаўрыла Іванавіч пра «матчыну ласку».

Доўгімі зімовымі вечарамі прала пры лучыне. Адначасова расказвала дзецям пра прыгон, падзеі пасля прыгону, пра здзекі паноў, бойкі сялян з казакамі і стражнікамі, пра падзеі 1905 г. — тое, што чула ад старэйшых, што бачыла і чула сама. А яшчэ ведала народныя абрады, адчувала хараство і прыгажосць прыроды. Зноў Гаўрыла Іванавіч успомніць дні маленства: «Мама, маладая, прыгожая, шые і пяе». Часцей гучалі песні сумныя. Але чулі дзеці і весялейшыя.

Былі не частыя хвіліны радасці. Радавалася, што Максім паспяхова вучыцца — у Вольшы, затым у Горках. На канікулы ён з каморніцка-агранамічнага вучылішча прыходзіў дамоў за 33 кіламетры. Яшчэ тады запісваў матчыны песні, казкі, апавяданні. Неўзабаве пайшоў на свой хлеб. Затым вучыліся меншанькія — Гаўрык і Ганна.

Потым з'явілася трывога за сына, што пайшоў на фронт і быў цяжка паранены. Толькі пасля доўгага лячэння прыехаў у вёску. У гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны неспакойна было ў павеце. І зноў трывожылася за сыноў, асабліва за Максіма, які воляй лёсу апынуўся за мяжой.

А калі, здавалася, жыццё пачало наладжвацца, сям'ю напаткала трагедыя: у Маскве пад трамвай трапіла 20-гадовая Ганна, студэнтка, адзіная дачка ў сям'і і агульная любіміца. Прыбітая горам, разглядала маці фотаздымкі дачкі ў труне ды прыціскала да сэрца жменьку валасоў, дасланых Гаўрылам. Заглушала боль размовамі, працай, малітвамі. Часта снілася дачка, здаровая, жыццярадасная.

Нарэшце Максім пасяліўся ў Мінску. Штогод наведвала яго, ганарылася сынам — пісьменнікам, вучоным. Толькі не рубцавалася рана па Ганне. Успамінала кожны яе крок, тое, як запісвала яна матчыны песні. Тройчы вазіў яе Максім у Маскву. З невымоўным горам стаяла ля дарагой магілы.

У 1925 г. запісы мелодый яе песень спрабавалі рабіць А. Грыневіч і В. Шашалевіч. Але ў іх не атрымлівалася. У лютым дваццаць мелодый запісаў М. Аладаў, некаторыя з запісаных песень уключыў у свой квінтэт. Кампазітар А. Ягораў у канцы года паклаў на ноты 126 песень. Яна спявала цэлымі гадзінамі, не раз паўтарала мелодыю. Ад яе навучыўся спяваць унучак Лёня, ды так, што з яго дапамогай А. Ягораў дапрацаваў рад песень. Кампазітар нават прапаноўваў паехаць з песнямі па рэспубліцы. Але яна турбавалася пра гаспадарку ў вёсцы. Ды і сын не рэкамендаваў ехаць.

Неўзабаве Максім пераехаў на працу ў Горкі, бліжэй да бацькоўскай хаты. Маці не раз яго тут наведвала, радавалася ўнукам, расказвала ім казкі, пра жыццё вяскоўцаў. У сям'і Гарэцкіх існаваў цвёрды звычай узаемадапамогі. Сыны дасылалі ці прывозілі грошай бацькам. Хутка Максім прывёз кніжку, у якой змясціў больш чым 300 запісаных ад маці песень з нотамі А. Ягорава. Узрушаная, трымала яна ў натруджаных руках кніжку са сваім партрэтам. Калі крыху падрасла ўнучка Галя, бабуля прасіла яе пачытаць сынавы кнігі. Уважліва слухала, наракаючы на сваю непісьменнасць. Максім кожнае лета прыязджаў у Багацькаўку. У 1927 г. правёў першае ў сваёй вёсцы радыё, і маці праз навушнікі слухала далёкія галасы.

1930 год прынёс новыя няшчасці. Беспадстаўна абвінавачаных у нацдэмаўшчыне сыноў выслалі за межы Беларусі. Маці ўсяляк старалася падтрымаць асірацелыя сем'і сыноў і іх саміх. Везла прадукты ўнукам у Мінск, збірала пасылкі на поўнач і ў Вятку. Максіму дасылала цёплыя рэчы, а таксама сухары, муку, часнок, мёд. Летам даглядала ў вёсцы ўнукаў. І зноў убівалася: каб была пісьменнай, напісала б сынам вестачку пра сябе.

Усё менш заставалася сілы. А сялянскае жыццё перадыху не давала. Трэба цягаць чыгуны з паранкай у печ і з печы, цэбры, кошыкі. І памёрла, надарваўшыся на працы: падняла з пограба цяжкі кош з бульбай. Не давялося развітацца з сынамі. А апошнія думкі былі пра іх. На пачатку сакавіка 1935 г. сваякі, суседзі праводзілі Ефрасінню Міхайлаўну ў апошні шлях.

Нам засталася яе багатая спадчына — песні. Зборнік «Народныя песні з мелодыямі» здзіўляе глыбінёй зместу, дасканаласцю формы твораў, шырынёй тэматыкі. Тут песні вясельныя, радзінныя, веснавыя, жніўныя, восеньскія, талочныя, зімовыя, дзіцячыя. Яны сведчаць аб паэтычнасці душы іх выканаўцы, яе таленавітасці.

Мінула 125 гадоў з дня нараджэння Ефрасінні Міхайлаўны. Яе песні ўвайшлі ў скарбніцу беларускай духоўнай культуры. Яны гучаць па радыё, змешчаны ў тамах кніг беларускай народнай творчасці, да іх пастаянна звяртаюцца вучоныя — фалькларысты і музыказнаўцы.

**Георгій ЮРЧАНКА.**

# РЭАБІЛІТАВАНЫЯ ГІСТОРЫЯЙ

**70-годдзю Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту бібліятэка часопіса «Советский воин» прысвяціла спецыяльную кніжку «Рэабілітаваныя гісторыяй». Нарысы, змешчаныя ў ёй, расказваюць пра першых начальнікаў ўпраўлення, якія ў гады сталінізму былі рэпрэсіраваны.**

**Сярод іх Ян Барысавіч Гамарнік—вядомы партыйны і савецкі дзеяч, жыццё якога звязана і з беларускай зямлёй. Яго воблік паўстае з нарыса А. Якубоўскага «Выбар Яна Гамарніка».**

**Е. ДРОМІН.**

# ХВАЛЯВАННІ ДЗЯДЗЬКІ ТОМАША

Ігнат ДУБРОЎСКІ

●

Нарэшце трапіўся нам комплекс, ды не абы які, а Белавежскі ў Камянецкім раёне на 108 тысяч адкормачных свіней, сцёкі з якога ў рэкі не спускаюцца.

— Вось вам, калі ласка, экалагічна чысты комплекс. Значыць, дасягнуць гэтага можна паўсюль, калі па-гаспадарску весці справы, — аж свяціўся ад радасці Касцючок. Ён, высока ўзняўшы галаву, гогалем хадзіў па комплексу і хваліў усё, што траплялася на вочы.

Так, тут сапраўды спуску сцёкаў у раку не было. На комплексе мы нічога недарэчнага, нават пры самым прыдзірлівым аглядзе, не знайшлі. Агледзелі палі арашэння, і там нічога такога не кінулася ў вочы. Толькі работнікі свінакомплексу скардзіліся, што палёў арашэння мала. Ім адвялі 1500 гектараў, але амаль трэцюю частку, па загадзе РАПА, засяваюць збожжам. Для большай экалагічнай устойлівасці навакольнага асяроддзя пад палі арашэння такому комплексу трэба мець не менш чым 3,5 тысячы гектараў. Цэлая гаспадарка!

Усё ішло нармальна, пакуль мы не звярнуліся да жыхароў навакольных вёсак. Пасыпаліся скаргі і просьбы спыніць работу свінакомплексу. Яны назвалі яго д'ябальскім спараджэннем, горшым за чарнобыльскую аварыю. Ён атручвае ім жыццё, асабліва шкодзіць здароўю дзяцей.

Справа ў тым, што вадкі гной, якога за год набіраецца звыш мільёна тон, уносіцца пад травы на палях арашэння палівальнымі машынамі «Валжанка», якія распыляюць вадкі гной у паветры на дробныя кропелькі. Нават лёгкі ветрык разносіць іх кіламетраў на пяць навокал. Гэта смярдзючая імжа часта свенціць навакольныя палі, сады, вёскі — усё жывое. Апроч таго, свінакомплекс выкідвае ў паветра за суткі паўтары тоны аміяку! «Водар» комплексу адчуваецца за некалькі кіламетраў.

Раённая санэпідэмстанцыя адзначыла наяўнасць нітратаў звыш допушчальнай нормы ў глебе, грунтовых водах, студнях у раслінах. Накапленне іх штогод, ад унясення ў глебу вадкага гною, павялічваецца.

Тамаш Макаравіч і Раман Якаўлевіч былі расчараваны. Васіль Кузьміч не бянтэжыўся. Забруджванне прыроды лічыў занадта перабольшаным.

— Не так пахне? Новая сітуацыя, людзі не прызвычаіліся да яе. У вёсцы заўсёды гноем пахла і ніхто не заўважаў, — стаяў на сваім Касцючок.

Каб пераканаць нас, што комплексы, калі на іх дбайна гаспадарыць, ніякай шкоды прыродзе не робяць, ён настойліва прапаноўваў наведаць свінакомплекс «Сож» у Гомельскім раёне. Там усё вядзецца на патрэбным узроўні. Мы згадзіліся. Комплекс «Сож» сапраўды заслугоўваў увагі.

Колькі было ўрачыстага шуму з нагоды адкрыцця гэтага гіганта. Зноў тая ж прагрэсіўная тэхналогія! Экалагічна чыстая вытворчасць! Нідзе не бачаная эканомія кармоў! Самы танны сабекошт свініны! Мільённыя прыбыткі! А які пабудаваны пасёлак для персаналу комплексу! У ім прыемна духмяняць пяць тысяч руж!

Мы агледзелі гэты пасёлак. Ён сапраўды прыгожы, пабудаваны з добрым архітэктурным густам і шчодрай рукой. Прыгожа спланаваны вуліцы, цешыць вока разнастайнасць архітэктуры катэджаў, шмат зелені і кветак.

Агледзелі і комплекс. Ён стварае ўражанне ладнага гарадка. Капітальныя адкормачныя цэхі і падсобныя будынкі. Прасторны двор. Свінні ўладкаваліся не горш за людзей. Тут, як і ўсюды на гіганцкіх свінакомплексах, сухое кармленне свіней адныімі канцэнтратамі, ледзь не чыстым зернем. За год 108-тысячная хеўра дзюдак перажоўвае каля 600 тысяч цэнтнераў збожжа.

Вядома, што страўнікі свіней, пры такой вялікай колькасці канцэнтратаў, не пераварваюць іх, значная частка ідзе ў экскрэменты. І тут, як і на ўсіх гігантах, экскрэменты змываюцца вадой. За суткі выдаткоўваецца, як вызначана нормай, 3760 кубічных метраў вады, з іх 2560 на змыў экскрэментаў і 1200 на гаспадарчыя патрэбы. Фактычна ж вады ідзе разам ў два больш. Рака, сапраўдная рака льецца і льецца праз комплекс. У комплекс прыцякае чыстая, а з комплексу... Не будзем спяшацца.

Першае ўражанне пераконвала нас, што тут сапраўды экалагічна чыстая вытворчасць. Васіль Кузьміч, як і на Белавежскім, адразу павесялеў. Рослы, хударлявы, з падстрыжанай пад «вожыка» галавой, ён лёгка крочыў паперадзе нас, каменціраваў, дапаўняў гіда і паўтараў:

— Гэта вам не Белавежскі, тут усё ў ажуры!

Касцючок крыху паспяшаўся. Пры аглядзе ачышчальнай сістэмы *выявілася, што яна прымітыўная*, як і на большасці комплексаў. Поўная ачыстка вады ад экскрэментаў не дасягалася. Адстоеныя воды выліваліся на палі арашэння плошчаю каля 1600 гектараў. Гэта *страчаныя для сельскай гаспадаркі землі.* На іх *звычайна* сеюць травы на корм жывёле. Але доўгатэрміновае выліванне бруднай вады з утрыманнем азоту вядзе да накаплення ў глебе і раслінах нітратаў, шкодных як для жывёлы, так і для чалавека. На палях арашэння павінна быць сетка свідравін для праверкі чысціні грунтовых водаў. На справе на ўсёй плошчы гэтых палёў не было ніводнай свідравіны. Частка неачышчальных водаў трапляла ў меліярацыйныя канавы, а з іх у раку Нямыльню, прыток Сожа. Трывожная з'ява.

Мы вярталіся з Гомеля ў Мінск і спыніліся адпачыць у невялічкім гайку, не даязджаючы Бабруйска. Быў канец верасня. Надвор'е стаяла сухое і цёплае — бабскае лета. Мы размясціліся на мурагу пад густым разлапістым дубам. Касцючок улёгся тварам дагары і, аб чымсьці задумаўшыся, адкусваў сцяблінку мятліцы і выплёўваў у паветра. Лебядзюк, шырока раскінуўшы кароткія ногі і абапёршыся на локці, пасвіў у траве галінкай палыну нейкую казюрку. Я прымасціўся непадалёк на пеньчуку, гартаў блакнот і выпраўляў запісы. Тамаш Макаравіч не прылёг. Ён хадзіў навокал дуба і штосьці збіраў у траве. Падышоў да нас і, паказваючы прыгаршчы жалудоў, сказаў:

— Вось чым раней сяляне кармілі свіней. Ды яшчэ бульбачкай.

Прыўзняўшы галаву і зірнуўшы на жалуды, Касцючок махнуў рукой:

— Гэта было да патопу. А цяпер...

Лебядзюк не даў яму дагаварыць.

— Так, так, Васіль, да патопу свіней кармілі жалудамі, а ў час патопу — цалюткім зернем. А здараецца — адной пшанічкай. Ды яшчэ імпартнай. За нафту, за газ, за вось такі лес, — ён павярнуўся на бок, адкінуў галінку і апісаў рукой круг над галавой, паказваючы на навакольныя дрэвы. — А то і за чыстае золата. Праядаем багацце нашчадкаў. А брудны патоп разліваецца і разліваецца па ўсёй рэспубліцы... Нават шырэй.

Касцючок абурыўся. Ён рыўком усхапіўся на каленкі і, жэстыкулюючы загарэлымі жылістымі рукамі, амаль крычаў, што нельга здзекліва гаварыць пра такую справу, як індустрыялізацыя жывёлагадоўлі.

— Ідзе гістарычны сусветны працэс, ад якога мы адстаём. А такія разумнікі, як ты, хочуць выбіць нас з гэтае каляіны. Брудная вада? Выдумкі! Сам бачыў, што яна чыстая, а калі і не зусім, то прырода — лепшы ачышчальнік.

Ён зноў назваў тэхналогію гіганцкіх комплексаў прагрэсіўнай і выставіў некалькі шырокавядомых доказаў. Тут і поўная механізацыя, і аўтаматызацыя, і нідзе нябачаная эканомія кармоў — на кілаграм прыбаўкі вагі ідзе ўсяго пяць кармавых адзінак, а на звычайных калгасных фермах дванаццаць—пятнаццаць, тут і мільённыя прыбыткі, і недасягальная для простых ферм прадукцыйнасць працы. Гэта быў запозненаы адказ на рэпліку Тамаша Макаравіча, які назваў тэхналогію на суперкомплексах заганнай.

Пачуўшы пра нябачаную эканомію кармоў, Лебядзюк таксама ўсхапіўся на каленкі. Страсянуў галавой, каб адкінуць з ілба густую светлую чупрыну, паправіў акуляры і назваў эканомію кармоў на свінакомплексах-гігантах дутай. Гэта тая паўпраўда, якая горш за ману. На комплексах амаль адно збожжа, якое ў парадку закупу ўзята ў калгасаў і саўгасаў. А калгасным фермам засталася мякіна ды, можа, скупы шчопаць азаддзя.

— Мы з дзядзькам Тамашам заклікаем усіх прыхільнікаў гіганцкіх комплексаў і цябе, Васіль, правесці навуковы эксперымент: пастаўце дзве групы аднолькавых падсвінкаў на комплексе і карміце адну такімі кармамі, як на комплексах, другую — як у слабых калгасах, — Лебядзюк не гаварыў, а ўсё роўна як выгукваў заклік у эфір, вымаўляючы словы з націскам. — Калі вынікі будуць аднолькавыя, тады ваша праўда. Згодны, дзядзька Томаш?

Тамаш Макаравіч, стрымліваючы ўсмешку, глядзеў на сваіх выхаванцаў і маўчаў.

Але Васіль Кузьміч не разгубіўся, выставіў чарговы доказ. Буйныя комплексы даюць тры чвэрткі ўсяго мяса ў рэспубліцы, што неабвержна сведчыць аб незаменнасці буйных комплексаў, што яны — адзіна правільны шлях індустрыялізацыі жывёлагадоўлі.

— Хм.., — іранічна хмыкнуў Раман Якаўлевіч. — Адзіна правільны... У тым і бяда, што адзіна... Гіганцкія комплексы, калі хочаш ведаць, тармозяць развіццё жывёлагадоўлі, — і ён рэзка ўзмахнуў рукой, на якой іскрынкай бліснуў пярсцёнак. — Скінь ружовыя акуляры, Васіль, азірніся навокал, газеты пачытай, — прапанаваў Лебядзюк ужо без іроніі.

Ён нагадаў, што Беларусь спаборнічае з Літвой. Мы атрымліваем мяса і малака на сто гектараў сельскагаспадарчых зямель на дваццаць працэнтаў менш за Літву. А там няма гіганцкіх комплексаў. Літоўцы разумна адмовіліся ад антыпрыроднай канцэнтрацыі пагалоўя жывёлы. Нагадваў, што ў Літве будуюцца комплексы сярэдняй магутнасці, жывёлагадоўля размяшчаецца па тэрыторыі сельскагаспадарчых угоддзяў раўнамерна. Што значыць не дабіраць 20 працэнтаў малака і мяса? Гэта ўсё роўна як адна з нашых шасці абласцей, а больш дакладна — паўтары вобласці не даюць ні малака, ні мяса, кормяць жывёлу ўпустую.

— А калі хочаш, Васіль, вось табе параўнанне больш выразнае: Беларусь адстае ад Літвы па вытворчасці малака і мяса на цэлую пяцігодку!— напорыста сыпаў і сыпаў Лебядзюк, не даючы сказаць і слова свайму апаненту.

Яны, разгарачаныя, гняўліва ўзбуджаныя, тапталіся на каленках, здавалася, падскоквалі адзін перад адным, як восеньскія пеўнікі. Баючыся, каб яны часам не схапіліся загрудкі, я ўстаў і хацеў развесці іх, але Тамаш Макаравіч падаў знак не чапаць. Сам ён таксама хваляваўся. Стоячы ўбаку, ён то крыху нервова прыгладжваў пяцярнёй парадзелыя сівыя валасы, то заціскаў у кулак раздвоены шырокі падбародак, не зводзячы вачэй з дуэлянтаў.

Мусібыць, яму хацелася ведаць, чым начынены звычайна маўклівы, замкнуты Васіль Кузьміч.

Касцючка не збянтэжыла сказанае Лебедзюком пра вынікі спаборніцтва Беларусі з Літвой.

— Ага, не трэба комплексаў? Значыць, вечна з дробнымі фермамі? Вечна ў гразі сядзець?

— А хто за дробныя? Хто? — зноў перабіваючы апанента, ускіпеў Лебядзюк. — Мы за сярэднія з поўнай механізацыяй, на падсціле. Ніякага змыву. Экалагічна чыстыя. А твае гіганты не ў гразі? Колькі бруднай вады выліваюць яны ў глебу, у рэкі, азёры, у меліярацыйную сетку! Яны ўсю рэспубліку ператвораць у суцэльнае балота!

*Раз'ятраны* Касцючок усхапіўся на ногі. Падскочыў і Лебядзюк. Гляк, баючыся, каб не здарылася чаго недарэчнага, падышоў і развёў іх.

Калі нашы задзіры супакоіліся, астылі, мы зноў селі ў машыну. Звычайна за рулём сядзелі, чаргуючыся, Касцючок з Лебедзюком, а мы з Тамашом Макаравічам на заднім сядзенні. Цяпер жа, калі Раман Якаўлевіч памкнуўся сесці за руль, Гляк адхіліў яго і сеў сам, паказаўшы мне на месца побач з сабой. Нашы спрачальнікі неахвотна селі на задняе сядзенне, адвярнуўшыся адзін ад аднаго.

Нейкі час ехалі моўчкі. Першым загаварыў Тамаш Макаравіч, звяртаючыся да панурага Касцючка:

— Усё ж тэхналогія, Васіль, на комплексах заганная, калі гаварыць, паклаўшы руку на сэрца. Дзе гэта відана, каб свіней кармілі адным зернем? Купаемся ў зерні і мы, і свінні...

— Дзядзька Томаш, увесь свет трымае свіней на зерні, таму што механізаваць вадкае кармленне накладна. Ды і зерне ж акупляецца,—неяк сцісла, нясмела запярэчыў Касцючок.

— Твой свет, Васіль, збожжам топкі паравікоў паліў, а то проста высыпаў у мора. На свет трэба глядзець, запазычаць усё людскае, але не ўсё спрэс. Літва таксама свет. Чэхаславакія. Ніякіх там ні гігантаў, ні сухога кармлення адным зернем, а вадкае кармленне, з бульбачкай, траўкай і, вядома, з зерневай мучной прымешкай.

Тамаш Макаравіч нагадвае вопыт калгаса «Барацьба» Пухавіцкага раёна. Сярэдні свінакомплекс на 12 тысяч галоў гаспадарка ніяк не магла накарміць сваім уласным збожжам. Збіраць збожжа з усіх калгасаў і саўгасаў раёна, як гэта звычайна робіцца, абіраць суседзяў, скубсці там, дзе і так топка? Атрымліваць за іх кошт прыбыткі? Старшыня калгаса Іосіф Адамавіч Макарэвіч адмовіўся. Не дазволіла сумленне. Ён дабіўся пашырэння плошчы зямель калгаса на 2500 гектараў. Падвоіўся збор збожжа, а свайго намалоту свінням усё *роўна не хапала.* Нарэшце прыйшлі да пераканання, што трэба свіней пераводзіць на воднае кармленне. Увесці ў рацыён бульбу, караняплоды, травы, травяную муку, і, вядома, пэўную колькасць збожжа. І цяпер абыходзяцца сваімі ўласнымі *кармамі пры поўнай* механізацыі падрыхтоўкі і раздачы вадкіх кармоў.

Кожнаму селяніну, тым больш спецыялістам, вядома, што рацыёны вызначаюцца розным відам жывёлы, геаграфічнымі, занальна-эканамічнымі ўмовамі. Адзін тып рацыёна складзецца там, дзе збожжавыя культуры, напрыклад, у Саратаўскай вобласці, займаюць звыш 70 працэнтаў ворных зямель. Зусім іншы—там, дзе значныя плошчы займаюць бульба і трава, як у Беларусі. Тэхнакраты ж усюды ўвялі адзін тып рацыёну, каб лягчэй было механізаваць падрыхтоўку і раздачу кармоў.

На думку Рамана Якаўлевіча, калі б усю жывёлу перавесці на занальныя тыпы кармлення, па рацыёнах, якія раіць навука, *то, па яго разліках,* цалкам адпала б патрэба купляць збожжа за мяжою.

— Не толькі свіней, Раман, трэба перавесці на занальныя рацыёны. Варта зазірнуць і ў адкормачнікі бычкоў. Праз іх кармушкі таксама непарыўным струменем цячэ і цячэ сваё і імпартнае збожжа,—дадае Тамаш Макаравіч.

Ён прыгадвае, як пасля таго, калі генерал Жылінскі прайшоў па Палессі са сваімі меліярацыйнымі атрадамі (1873—1898 гг.), трошкі яго падсушыў, і пайшлі расці лепшыя травы, на былыя дрыгвяныя прасторы накінуліся купцы. Яны скуплялі ў сялян і памешчыкаў сотні тысяч цялят і нагульвалі на адной траве без каліва зерня такіх быкоў, што на замежных рынках іх адрывалі з рукамі.

— Дзядзька Томаш, у Іспаніі напэўна няма Палесся, то яны бычкоў адкормліваюць зялёнінай і саломай, перапрацаванай, вядома,—паведамляе Лебядзюк.—Кілаграм ячменю дае гідрапонным вырошчваннем шэсць кіло зяляніны. З кілаграма ячменю—адна кармавая адзінка—выходзіць звыш шасці кілаграмаў зялёнай масы—дзве кармавыя адзінкі. Яе змешваюць з саломай—адна частка зяляніны і тры часткі саломы. Прыбаўка вагі бычкоў —паўтара кілаграма за суткі. Заўважце, на адзін кілаграм ялавічыны трацішча адзін кілаграм зерня, а ў нас у трычатыры разы больш,—падкрэслівае Раман Якаўлевіч.

— Васіль, матай на вус,— звяртаецца Гляк да Касцючка. —Вось што трэба запазычаць за мяжой. Ну, хлопцы, усё, прыехалі ў Бабруйск. Не шкодзіла б дзе-небудзь чайку паніць,—прапанаваў ён.

●

У кафэ затрымаліся нядоўга. Калі выехалі з Бабруйска, першым загаварыў Касцючок.

— Дзядзька Томаш, вы супроць буйных комплексаў таму, што яны забруджваюць прыроду сцёкамі? А сярэднія не забруджваюць? Можа, яшчэ больш, чым буйныя?

— Сярэднія... сярэднія... Не блытай, Васіль...

Збіраўся Лебядзюк з думкамі, каб запярэчыць Касцючку, але яго перапыніў Гляк.

* (Працяг. Пачатак — у мінулым нумары «ЛіМа»).

— Раман, супакойся, Васілёва праўда. Забруджваюць прыроду і сярэднія комплексы. Тыя, дзе змыў экскрэментаў. Якая розніца, з буйнога змываюцца экскрэменты ці з сярэдняга? Усё роўна паскудзяць, адзін больш, другі менш.

Тамаш Макаравіч даводзіць, што на комплексах сярэдняй магутнасці лёгка ад гэтай хваробы пазбавіцца. Варта пераважыць жывёлу на подсціл, як змыву не стане. А на гіганцкім комплексе жывёлу на подсціл не перавядзеш, не навозішся подсцілу за сотні кіламетраў...

— Вы, дзядзька Томаш, перабольшваеце забруджванне прыроды сцёкамі. А Раман ледзь не б'е ў рэйку. Ёсць асобныя выпадкі. Вынік нядбайства. Працэс расцягнуты, павольны. Ад такой кроплі прырода сама ачысціцца, — зноў запярэчыў Касцючок.

— Кропля? Павольны працэс? — зласліва перапытаў Лебядзюк і нагадаў параўнанне аднаго вучонага. Калі жабу ўкінуць у пасудзіну з гарачай вадой, яна адразу выскача і застанецца жывой. Калі ж яе ўкінуць у пасудзіну з халоднай вадой і паступова падаграваць, яна загіне. — Вось табе: павольна...

— Гэта параўнанне. Удалае. А вось гістарычная падзея, — і Тамаш Макаравіч расказаў нам пра далёкую быль, якую чуў ад акадэміка Яўгена Кузьміча Аляксеева ў час лекцыі для старшынь калгасаў.

У старажытным Вавілоне, краі, як вядома, засушлівым, часта гінулі ўраджаі ад недахопу вільгаці. Тагачасная царыца, відаць, была з галавой, прыйшла думка паліваць пасевы вадой з Тыгра і Еўфрата праз каналы і арыкі. Паслухалі жыхары яе мудрай парады і праклалі ў палі каналы, правялі арыкі, пусцілі ваду. Ураджай сабралі адменны, хоць год быў засушлівы. Гэта спакусіла вавіланян на самае шырокае арашэнне. Вады з рэк забіралася ўсё больш і больш. Тыгр і Еўфрат сталі мялець, плынь іх запавольвалася. Зніжаўся напор вады і ў каналах. У арыках вада ледзь цякла, застойвалася, пранікала ў грунт, змыкалася з мінералізаванымі грунтовымі водамі. На паверхні зямлі стала выступаць соль. З часам працэс засалення дайшоў да такой ступені, што глебы ператварыліся ў суцэльныя саланчакі, у пустыню, пераcталі радзіць. Загінулі глебы — загінула і высокая вавілонская цывілізацыя.

— Ведаеш, Васіль, колькі доўжыўся гэты працэс? Восем стагоддзяў! Восемсот гадоў! А каб вавіланяне ў свой час, напачатку працэсу, ударылі ў рэйку, то, можа, пазбеглі б гібелі, — заключае Тамаш Макаравіч.

— Ці не стаім мы, дзядзька Томаш, з гэтымі гіганцкімі комплексамі ў пачатку нашага трагічнага васьмісотгоддзя? — больш прадракае, чым пытае Лебядзюк.

— Нам, Раман, калі не апамятаемся, гісторыя столькі часу не дасць. Мы і да сотні гадоў не дацягнем. Нас загубіць не засаленне, а нітраты.

Тамаш Макаравіч мае рацыю. У наш час, у час НТР, нагрузка на прыроду павялічылася непараўнальна з вавілонскай эпохай. Адмоўныя працэсы, працэсы экалагічнага крызісу працякаюць нашмат хутчэй.

— А комплексы са змывам экскрэментаў тым часам растуць і растуць, як грыбы пасля дажджу. Экалагічна, можа, яшчэ больш небяспечныя, чым грыбы атамныя, — сумна, як бы сам сабе прамовіў Раман Якаўлевіч.

Касцючок маўчаў, сцяўшы тонкія губы.

— Бачу, ты, Васіль, задумаўся. Задумацца і сапраўды ёсць над чым. Думай, думай, але май на ўвазе, мы сказалі далёка не ўсё пра заганы комплексаў-гігантаў.

Змыў экскрэментаў, сцёкі з комплексаў, вадкі гной, забруджванне прыроды — гэта, на думку Гляка, праяўленне глыбіннай прычыны — адрыву жывёлагадоўлі ад зямлі. І тут Тамаш Макаравіч мае рацыю. «Тэорыю» адрыву жывёлагадоўлі ад зямлі выдумалі тэхнакраты, яе падхапілі кіраўнікі-адміністратары планавых і ўпраўленчых ведамстваў і насіліся з ёй, як чорт з пісанай торбай. «Глыбокая спецыялізацыя!». «Жывёлагадоўля адрываецца ад зямлі!». «Ідзе працэс расчлянення галін сельскай гаспадаркі!». На жаль, паддаліся тэтаму псіхозу і некаторыя вучоныя.

«Тэорыя» гэта, а затым і практыка былі вельмі зручнымі для праекціроўшчыкаў, канструктараў, планавікоў, ведамасных кіраўнікоў. Адрыў жывёлагадоўлі ад зямлі скасоўвае ўсякае абмежаванне ў канцэнтрацыі пагалоўя жывёлы на адным аб'екце. З'явіліся комплексы на 54, 108 тысяч свіней без адзінага гектара зямлі. Не трэба ламаць галаву над тым, як увязаць колькасць жывёлы на комплексе з кармавой базай. Забеспячэнне жывёлы кармамі было каменем спатыкнення і для праекціроўшчыкаў, і для планавікоў. Цяпер не трэба думаць аб кармах, іх прывязуць з суседніх гаспадарак, раёнаў, абласцей, рэспублік, з Амерыкі, Канады...

Кармы на комплексы можна прывезці з-за свету, а подсцілу не прывязеш. Вось і ўзнікла беспадсцілачнае ўтрыманне жывёлы са змывам экскрэментаў, з непазбежным забруджваннем прыроды...

— Ты, Раман, пытаў, які дурань прыдумаў змыў экскрэментаў, стварэнне ачышчальных збудаванняў? Бачыш, усё ішло лагічна. Прыпёрла — прыдумалі. А сапраўды, навошта такі агарод гарадзіць, лішнія сродкі траціць, калі гной, падсцілачны гной, найлепшы кандэнсатар і аміяку, і вадкай фракцыі экскрэментаў. Ніякіх табе сцёкаў. І ў дадатак — гной, найлепшае ўгнаенне. Збіліся з тропу ў такой важнай і патрэбнай справе, як індустрыялізацыя жывёлагадоўлі...

Лагічна дапусціць, што на зямлі, ад якой адарвана жывёлагадоўля, трэба ствараць гаспадаркі без жывёлагадоўлі. Такія спробы былі. Як прыклад можна назваць саўгас «Бор» Навагрудскага раёна. Па ідэі гэта павінна была быць гаспадарка па вытворчасці кармоў. Усю жывёлу збылі, кармы, якія вырошчваліся ў саўгасе, прадавалі комплексам. Праз два гады ўраджаі паляцелі ўніз. Кармавая гаспадарка лопнула, як мыльны пухір. Зноў пачалі набываць жывёлу. Пашахоншчына самая непрыглядная...

Нельга парушаць непарушнае, прыродай створанае адзінства. Прырода стварыла біяцэнозы — сукупнасці раслінных і жывёльных арганізмаў. Склаліся іх пэўныя суадносіны, розныя ў розных геаграфічных зонах, але непарушна адзіныя. На прынцыпах біяцэнозаў узнікла і развіваецца сельская гаспадарка. Тут склаліся свае суадносіны культур у земляробстве, пэўныя суадносіны жывёлагадоўлі і раслінаводства. У розных зонах свае. У гэтым устойлівасць сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэта важнейшы біялагічны закон, які ў сельскай гаспадарцы спалучаецца з законамі эканамічнымі.

У нас індустрыялізацыя жывёлагадоўлі ў форме гіганцкіх комплексаў вядзецца не на аснове гэтых законаў, а пры поўным іх ігнараванні. Гэта вядзе да парушэння кругазвароту спажыўных рэчываў у сельскай гаспадарцы. Вядома, што ўраджаі выносяць з зямлі спажыўныя рэчывы, калі іх не вярнуць глебе, яна спустошыцца, перастане радзіць. Закон звароту па-сялянску гучыць так: поле — хлеў — поле. Ён быў зразумелы кожнаму селяніну, ад дзяцей да старых, і выконваўся з набожнай строгасцю.

Вядома, гной не можа поўнасцю вярнуць глебе ўзятае ўраджаем. А калі імкнуцца да росту ўраджаяў, то ўзятыя спажыўныя рэчывы трэба вярнуць ёй з коптарам. Для гэтага карыстаюцца мінеральнымі тукамі. Але ж мінеральныя тукі не могуць цалкам замяніць гной. Празмерныя дозы іх вядуць, як вядома, да назапашвання нітратаў у глебе. Мінеральныя павінны ўносіцца ў глебу ў пэўнай прапорцыі з арганічнымі — гноем, торфам, сапрапелямі. У нашай краіне доля арганічных угнаенняў у агульным аб'ёме спажыўных рэчываў, якія ўносяцца ў глебу, складае ўсяго 27 працэнтаў. У ГДР — 45, у Англіі — 49, у Злучаных Штатах Амерыкі — 61 працэнт.

На гіганцкія комплексы завозіцца за дзесяткі і сотні кіламетраў вялікая колькасць кармоў. Адна пятая частка, а то і менш вагавай колькасці іх засвойваецца жывёльным арганізмам, астатняя ідзе ў экскрэменты, якія і змываюцца вадой. Такі гной, у якім звыш 92 працэнтаў вады, не вернеш на тыя палі, з якіх узяты кармы. Іх кампенсуюць мінеральнымі. Вядома, да чаго гэта вядзе.

Каб уявіць маштабнасць парушэння кругазвароту спажыўных рэчываў, Раман Якаўлевіч падае такія разлікі. На 108-тысячны свінакомплекс штогод завозіцца 600 тысяч цэнтнераў канцэнтратаў, якія вынеслі з глебы каля 40 тысяч цэнтнераў азоту, 34 тысячы цэнтнераў фосфару і не менш 18 тысяч цэнтнераў калію. На тыя палі, з якіх узяты кармы, іх у выглядзе гною ніяк не вернеш... Гэта вельмі трывожыць не толькі спецыялістаў, але і сялян.

У Баранавіцкім раёне размешчаны тры буйныя комплексы: па адкорме 15 тысяч бычкоў у пасёлку Прыазёрнае, па адкорме 54 тысяч свіней у вёсцы Цепліводы і буйная птушкафабрыка ў вёсцы Русіна. Яны размешчаны так, што ўтвараюць трохкутнік у цэнтры раёна. Мне неаднойчы даводзілася чуць ад спецыялістаў і кіраўнікоў гаспадарак раёна, што гэту групу комплексаў называюць Бермудскім трохкутнікам. Што туды трапіла, назад не вернеш... У гэтым сэнсе кожны буйны комплекс можна назваць Бермудскім трохкутнікам.

Прыхільнікі гіганцкіх комплексаў сцвярджаюць, нібы гаспадаркі, якія маюць буйныя комплексы, адкормліваюць жывёлу на сваіх уласных кармах. У гэтым плане неаднойчы называўся, як прыклад, калгас-камбінат «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна. Дасціпны Раман Якаўлевіч падаў нам такія звесткі. Калгас «Памяць Ільіча», гаспадарка выдатная, мае 11 тысяч гектараў зямлі, адкормлівае штогод 10 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы. Атрымлівае высокія прыбыткі. Але тое, што ён адкормлівае жывёлу на ўласных кармах, не зусім адпавядае сапраўднасці.

Калгас «Памяць Ільіча» прадае дзяржаве па 0,86 цэнтнера збожжа з кожнага гектара пасеваў гэтых культур. Калгас імя Калініна, гэтага ж раёна, прадае дзяржаве па 5,6 цэнтнера. У 6,4 раза больш. Першая гаспадарка купляе ў дзяржавы па 2,25 цэнтнера канцэнтратаў на адзін гектар ворнай зямлі. Другая — па 0,36 цэнтнера. У 6,3 раза менш. Першая гаспадарка засыпае ў кармавы фонд па 10,2 цэнтнера канцэнтратаў на кожны гектар сельгасугоддзяў. Другая — па 1,7 цэнтнера. У 6 разоў менш.

— Вось вам і на сваіх кармах. Усе гаспадаркі з буйнымі комплексамі жывяцца сокамі другіх. У дадатак ім і пераходныя сцягі і ордэны.

Лебядзюк называе гэта сацыяльнай несправядлівасцю, штучнай дыферэнцыяцыяй гаспадарак. З кармамі, вядома, беззваротна перапампоўваюцца ў прывілеяваныя гаспадаркі і спажыўныя рэчывы, якія назад не вернеш.

Нейкая частка вадкага гною скарыстоўваецца суседнімі з суперкомплексамі саўгасамі і калгасамі. Нагляданні паказваюць, што ў тых гаспадарках, у якіх вадкі гной уносіцца ў вялікай колькасці, пасевы ў мокрыя гады палягаюць і гніюць ад лішку азоту. У сухія — выгараюць усё ад таго ж лішку азоту.

— Але гэта яшчэ не ўсе беды, якія нясуць вёсцы гіганцкія комплексы. Варта звярнуць увагу на тое, колькі мільёнаў рублёў убухана ў манументальныя сцены гіганцкіх комплексаў, колькі выдаткавана будаўнічых матэрыялаў. Услед за ім Раман Якаўлевіч называе кошт будаўніцтва гіганцкіх комплексаў. Свінакомплекс на 108 тысяч галоў абыходзіцца не менш як у 45 мільёнаў рублёў. У пяцідзесяцічатырохтысячны свінакомплекс укладваецца звыш 22 мільёнаў рублёў. Выдаткі на будаўніцтва комплексу па адкорме 15 тысяч бычкоў дасягаюць 20 мільёнаў рублёў.

— Прывяду і другія лічбы, — кажа Лебядзюк. — За васемнаццаць гадоў, якраз за той час, калі раслі суперкомплексы, як грыбы пасля дажджу, у вёсках Беларусі знікла 126 клубаў і 556 бібліятэк.

— Ну вось, а кажуць, у нас неперспектыўных вёсак няма. Мана! Яны не толькі не зніклі, але нават павялічваюцца. Свінням і бычкам будуем палацы, а ў людзей культурнага прыпынку няма, — злосна каменціруе Тамаш Макаравіч.

— А ўсё таму, дзядзька Томаш, што нашы эканамісты даследуюць дзейнасць суперкомплексаў старымі метадамі. Сабекошт вызначаюць па старой схеме выдаткаў на вытворчасць, — слушна заўважае Раман Якаўлевіч.

Ён рытарычна пытае, чаму ж не ўлічваюцца ў сабекошт экалагічныя страты? Чаму не ўлічваюцца страты ад недабору прадукцыі ў тых гаспадарках, якія даюць кармы комплексам? Чаму не ўлічваецца кошт вады, гэтай самай высокакаштоўнай сыравіны? Чаму не ўлічваецца гной, якога пазбаўлены гаспадаркі, што даюць кармы комплексам, адарваным ад зямлі? Наогул, няма аб'ектыўнага даследавання гіганцкіх комплексаў. Ненавукова і тое, што пры даследаваннях звальваюць у адну кучу гіганцкія і сярэднія комплексы. Трэба і тут, на яго думку, карыстацца ленінскім метадам груповак па памерах комплексаў.

**(Заканчэнне будзе).**



## ПРЭМ'ЕРА Ў НАРОДНЫМ

Нядаўна афіша Баранавіцкага гарадскога Дома культуры паклікала гледачоў на абмеркаванне прэм'еры самадзейнага лялечнага тэатра па казцы-паэме В. Лукшы «Чароўны камень». Гэта плён супольнай працы рэжысёра-пастаноўшчыка Л. Каданцавай і стваральнікаў музыкі В. Ждана, Г. Каралёвай, В. Пашкевіча. Ролі выконвалі вучні СШ № 11, № 2, навучэнцы ГПТВ—118. Поспех спектакля — заслуга артыста народнага тэатра М. Станчыка, арганізатара Дома піянераў Г. Каралёвай.

Падводзячы вынікі абмеркавання прэм'еры, загадчык аддзела культурна-асветных устаноў Брэсцкага абласнога ўпраўлення культуры В. Гуляеў падкрэсліў, што спектакль дае падставы гаварыць аб творчым станаўленні ў Баранавічах пастаянна дзеючага народнага тэатра лялек, які варты пільнай увагі і ўсебаковай падтрымкі.

Творчыя здабыткі тэатральнага калектыву гарадскога Дома культуры пастаноўкай казкі-паэмы «Чароўны камень» пацвердзілі яго права на званне народнага лялечнага тэатра.

М. БУСЬКО.

